

Змітрок Астапенка

# ВЫБРАНАЕ

ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА БССР
Рэдакцыя мастацкай літаратуры
МІНСК 1957

## ЗМІТРОК АСТАПЕНКА

Першыя вершы Змітрака Астапенкі з'явіліся ў друку ў канцы 20-х гадоў. Гэта быў цікавы час у гісторыі беларускай савецкай паэзіі. Вялікі Кастрычнік адкрыў неабмежаваныя магчымасці ў галіне культурнага развіцця і стваральнай працы. Грандыёзныя сацыялістычныя пераўтварэнні адбываліся ў вёсцы. Перад вачыма мільёнаў працоўных, вызваленых ад шматвяковага сацыяльнага і нацыянальнага прыгнёту, паўставалі велічныя абрысы першай пяцігодкі. І гэта атмасфера агульнага, ніколі дагэтуль нябачанага ўздыму адчувалася ў беларускай паэзіі, у якую ўліваліся ўсё новыя і новыя маладыя сілы.

Гэта быў час, калі дасягнулі свайго поўнага росквіту вялікія таленты Янкі Купалы і Якуба Коласа, калі гучаў голас Міхася Чарота, калі новае, свежае слова ў нашу паэзію неслі такія, тады маладыя, паэты, як Пятрусь Броўка, Пятро Глебка, Паўлюк Трус, Андрэй Александровіч, Алесь Звонак, калі пачынаў спрабаваць свае сілы яшчэ зусім юны Аркадзь Куляшоў. Гэта быў час паспяховага пошуку новых шляхоў, час збірання сіл. І не будзе памылкай сказаць, што іменна ў тыя часы былі створаны трывалыя асновы беларускай савецкай

паэзіі, якія далі ёй пазней магчымасць выйсці на ўсесаюзную арэну.

Вершы Змітрака Астапенкі народжаны сваім часам. Маладога паэта захапляюць велічныя перспектывы сацыялістычнага будаўніцтва, стваральнай працы. У вершы «Агнямі і кроўю сардэчных паэм» (1928) ён піша, звяртаючыся да роднай краіны:

Няхай у суровыя высі твае,
Пад згукі шырокага рання,
Бунтоўная праца
Штандар узвіе,
Чырвоны штандар будавання!

На сінім балоце, дзе багна і мох,
Дзе бросня і водар багунны,
Няхай пракладзецца у будучнасць мост
Пад рэйкамі гулкай чыгункі.

Гіне стары быт, стары свет. Гінуць старыя эстэтычныя каноны. Новае савецкае жыццё ўладарна, як гаспадар, ідзе па краіне. Паэт усім сэрцам з новым, імкнецца ўславіць гэта новае, знаходзіць вялікае хараство ў ім.

Задумайся, дружа, якая краса
У трактарных гэтых калонах,
Што з горада йшлі каля ціхіх прысад,
Мінаючы светлыя клёны,—

гаворыць З. Астапенка ў адным з сваіх ранніх вершаў. І старыя, традыцыйныя тэмы ён імкнецца пераасэнсаваць па-новаму. Вось верш «Жніво». Гэта ўжо не старое жніво з журботнай песняй жней, песняй-скаргай на цяжкую працу і долю, а наша калгаснае жніво, дзе адчуваецца размах і радасць вольнай працы:



Паглядзі — на залатых палях,
Галавой падпёршы чару неба,
Элеватары сумуюць па руччах
Чыстых зерняў залатога хлеба!

Гэткімі-ж аптымістычнымі настроямі прасякнуты і адзін з лепшых вершаў паэта «На ўсход сонца». Твор з'яўляецца ў значнай ступені праграмным, бо ў ім аўтар вызначае свае адносіны да жыцця, свой творчы шлях.

Паэт разумее, што далёка не ўсё са створанага мастакамі да Кастрычніка можа быць патрэбным у эпоху будавання соцыялізма, у час, калі

Перуны адбушавалі,
Адгрымелі навальніцы.
З дзён разбітых вырастае
Постаць гордая комуны.

Выразна і па-свойму паэтычна гаворыць ён аб неадкладных задачах, якія паставіла перад мастакамі слова новая, савецкая эпоха:

Хто шчаслівы жыць сягоння,
Хай кладзе муры стагоддзяў,
У каго, як сталь, цягліцы
І палёт надхмарны думак —

Панапружвайце цяглііцы!
Напружыньце ўзлёты думак!
З новай песняй, нашай песняй
Узнімайцеся, ідзіце —

На ўсход сонца!
На ўсход сонца!..

Паэтычнае крэдо Астапенкі паўстае з гэтых радкоў выразна і ярка.

Вельмі хвалявала паэта тэма ўз'яднання Беларусі, заходнія вобласці якой знаходзіліся ў тыя часы пад уладаю белапольскіх акупантаў. Гэтай тэме ён прысвяціў нізку вершаў «Ноч на станцыі Негарэлае», якая цікава глыбокім разуменнем тэмы. Граніца СССР з белапанскай Польшчай для паэта — не звычайная граніца між суседнімі дзяржавамі, а мяжа між светам капіталістычным і соцыялістычным.

Гэта-ж тэма двух светаў гучыць і ва ўрыўках песні-паэмы «Два таварышы», якая, паводле слоў аўтара, навеяна фактамі масавага пераходу ў Краіну Советаў сялян Заходняй Беларусі ўвосень 1933 года. Твор цікавы тым, што беларуская народная песня ў ім арганічна ўплятаецца ў тканіну баявога рэволюцыйнага верша, які заклікае да барацьбы супраць прыгнятальнікаў. Паэт умела выкарыстоўвае народную песню:

Дык чаму-ж, верасок,
На балоце пасох,
Не зацвіўшы?
. . . . . . . .

— Я з тугі пасох
Па зялёных лясох,
Па яловых іголак цвішшы...

Па жаданай волі,
Па ўраджайным полі...

Творчы дыяпазон паэта досыць шырокі. У яго ёсць вершы і аб Чорным моры, і аб руінах старадаўняга Херсанеса, і лірычныя вершы аб каханні і прыродзе. Не ўсе яны роўныя па сваіх мастацкіх якасцях. Некаторыя з іх не ўзнімаюцца над сярэднім узроўнем паэзіі свайго часу, але разам з лепшымі творамі паэта яны даюць



выразнае ўяўленне аб тым, чым ён жыў, што хвалявала яго ў тыя гады. Не трэба забываць яшчэ і аб тым, што гэтыя вершы напісаны ў 1928—1932 гадах, калі З. Астапенка не паспеў сфармавацца як мастак і фактычна толькі пачынаў свой шлях.

Змітрок (Дзмітры Емельянавіч) Астапенка нарадзіўся ў лістападзе 1910 г. у вёсцы Калеснікі, Хіславіцкай воласці, Смаленскай губерні, у сям'і настаўніка. У 1925 г. будучы паэт паступае ў Мсціслаўскі педагагічны тэхнікум і заканчвае яго ў 1929 г. У тэхнікуме ён пачынае пісаць вершы і выступае з імі ў друку. Яшчэ ў 1928 г. ён атрымлівае ад Якуба Коласа кнігу з надпісам, у якім народны пясняр выказвае ўпэўненасць, што З. Астапенка будзе вядомым паэтам. Гэты надпіс быў своеасаблівай рэцэнзіяй на першыя творы пачынаючага паэта. Пасля заканчэння тэхнікума З. Астапенка жыве ў Мінску, прымае актыўны ўдзел у літаратурным жыцці, многа піша, перакладае, выпускае зборнікі вершаў «Краіне» і «На ўсход сонца», спрабуе свае сілы ў прозе, у галіне навукова-фантастычнага рамана. Паэт настойліва працуе, самастойна вывучае польскую, англійскую і нямецкую мовы, прычым польскай і нямецкай авалодвае дасканала.

З 1942 г. паэт знаходзіўся на фронце. У 1944 годзе ён загінуў смерцю героя, змагаючыся супроць нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

У тым-жа 1944 годзе З. Астапенка напісаў сваю лепшую рэч — паэму «Эдэм», якая, на нашу думку, заслугоўвае пільнай увагі. Калі на яго вершах ляжыць пэўны адбітак пошукаў свайго твору, сваёй тэмы, калі рысы творчай самастойнасці там яшчэ толькі вымалёўваліся, дык «Эдэм» з'яўляецца плодам яго сталасці як паэта. Чытаючы паэму, адчуваеш, што аўтар ведае

жыццё і разумее яго, мае што сказаць і ўмее гэта зрабіць па-свойму.

1941 год. Вайна. Нашы войскі адступаюць. Юхім Кашлаты, адзін з галоўных герояў паэмы, дэзерціруе з Савецкай Арміі і вяртаецца ў сваю вёску, дзе жыве яго сястра настаўніца Наста. У гэтую-ж вёску вяртаецца і муж Насты Андрэй Саковіч, які трапіў у варожае акружэнне і не змог з байцамі прабіцца да сваіх. Зусім розныя мэты прывялі Юхіма і Андрэя да роднай вёскі, ужо занятай фашыстамі. Юхім — здраднік, ён сам ідзе да захопнікаў. Паэт вельмі своеасабліва і глыбока раскрывае ўсю агідную сутнасць кулацкага сына Юхіма ў тым раздзеле паэмы, які называецца «Пратакол допыту». Вось некалькі радкоў, якія яскрава сведчаць аб гэтым:

Я йшоў праз гушчы пушчаў і лясоў,
У твань балотаў з купінаў слізгаўся.
Я йшоў дамоў — у гэты край ішоў,
Дзе ўжо няма Саветаў і калгасаў.
І я прыйшоў, і вас прашу аддаць
Мой дом, зямлю, увесь набытак таты.
І мне тут больш няма чаго казаць,
У чым я стаўлю подпіс свой —
Кашлаты.

Вось мэта драпежнага ўласніка — стварыць сабе свой кулацкі эдэм, стварыць яго любой цаной. Захопнікі робяць Юхіма старастам, вяртаюць яму бацькоўскі дом, зямлю.

Андрэй Саковіч, былы старшыня калгаса, вярнуўся да сваіх родных мясцін не адзін, ён прывёў з сабой чырвонаармейцаў, ён арганізоўвае на радзіме партызанскі атрад, узначальвае яго. Яго жонка Наста, Юхі-



мава сястра, жывучы разам з братам, употай трымае сувязь з партызанамі, дапамагае ім. Наста і Юхім — людзі розных светапоглядаў. Наста любіць Радзіму, сваю настаўніцкую працу, свайго мужа-комуніста.

Паэт з вялікай любоўю і цеплынёю малюе ўзаемаадносіны Насты і Саковіча, прасочвае іх шлях, пачынаючы з дзён маленства. Іх каханне моцнае, пяшчотнае, чыстае.

Яна настаўніца. Ён — старшынёй.
І ўсе зайздросцілі — такая пара!
Дом новы будаваў ён над ракой,
Калгасны новы дом у ліпавым гушчары.
Не дом, а лялька — эх, і зажывем!
Не дом, а лялька — працы дар нявесце,
Не дом, а як гэта завуць? — эдэм,
Наш земны рай, дзе шчасна ўсім жывецца!
— Эдэм, эдэм!.. — смяялася яна, —
Адкуль бярэш ты гэтакія словы!..
І так смяялася... пакуль вайна
Не перарвала смех і шум будовы.

У паэме ўмела і тонка супроцьстаўляецца змрочнаму кулацкаму «эдэму» Юхіма, дзе ўсе павінны рабіць на гаспадара за кавалак хлеба, светлы эдэм Андрэя і Насты.

У Юхіма засталіся яшчэ рэшткі чалавечых пачуццяў, ён любіць сястру Насту, спадзеючыся, што Наста зробіцца з часам іншай і дапаможа яму будаваць свой «эдэм». Але, даведаўшыся, што сястра трымае сувязь з партызанамі, ён папярэджвае гітлераўцаў. Яны робяць засаду. Насце не ўдаецца ўцячы ў лес, яна паранена. Фашысты абяцалі Юхіму пакінуць сястру жывой, але ашукалі свайго крывавага халуя і пакаралі Насту

смерцю. Гэтак пачынае развальвацца Юхімаў «эдэм». Смерць сястры моцна ўражае гэтага ваўкалака. Ён-жа сам выдаў сястру! Але здрадніка чакае яшчэ новы ўдар. Праз тыдзень ён даведаўся, што яго зямлю, дом, млын, сад аддаюць нейкаму Францу Блюму, бо Юхім тут ужо не патрэбен: ён канчаткова скампраметаваў сябе перад насельніцтвам, і ўся вёска ненавідзіць яго. Праўда, яму даюць у іншым месцы зямлю і пасаду, але Юхім зразумеў, што ніякага эдэма яму не пабудаваць, што ён проста інструмент у руках захопнікаў. І тут пачынаецца трагедыя ашуканага ашуканца і здрадніка. Дзікунскае азлабленне пануе ў душы Юхіма. Ён вырашае адпомсціць фашысцкім вылюдкам за сястру і за разбураны «эдэм». Юхім падпальвае свой дом, шпурляе гранату на стол, за якім балююць госці.

Здраднік Юхім канчаткова заблытаўся. Яму няма выйсця. Яму няма месца на зямлі. Ён кінуўся ў лес.

...Як чорныя вятры
У пушчы дні і ночы пралятаці,
Шаптала ноч яму імя сястры,
А дні імя Саковіча шапталі.

Выйсця няма, і Юхім канчае жыццё самагубствам. Вось ён — поўны крах уласніцкага «эдэма».

Заслуга паэта не толькі ў тым, што ён паказаў заканамерны крах кулацкага «эдэма», паказаў нікчэмнасць і пагібельнасць мар аб ім.

Калі-б Змітрок Астапенка абмежаваўся гэтым, ён зрабіў-бы ўсяго нейкую частку справы. Удача паэмы абумоўліваецца стварэннем запамінальных вобразаў савецкіх людзей — Андрэя і Насты. Гэта жывыя людзі са сваімі непаўторнымі лёсамі і характарамі.

Сапраўднае майстэрства паказаў паэт і ў вельмі



дакладнай і строгай кампазіцыі паэмы, у якой вы не знойдзеце нічога лішняга. У паэме шмат сакавітых бытавых дэталей, але кожная такая дэталь даецца для таго, каб падмацаваць асноўную думку твора. Паэма напісана пяцістопным ямбам, памерам, як вядома, не новым, але аўтар знайшоў у ім зусім новыя магчымасці. Арсенал яго паэтычных сродкаў рознастайны і багаты. У паэме ёсць і тонкая іронія, і лірычнае адступленне, і жарт, і народная прымаўка, і строгі эпічны расказ.

«Эдэм» сведчыць аб тым, што ў З. Астапенкі былі вялікія магчымасці ў галіне эпічнай паэмы. Гэты-ж твор з'яўляецца дасягненнем і здабыткам не толькі для аўтара, а і для ўсёй беларускай савецкай паэзіі.

*Аляксей ЗАРЫЦКІ*

## НА ЎСХОД СОНЦА

На ўсход сонца!
На ўсход сонца!

Узнімайся, брат, радак мой,
Завалоданы віхурай
І захоплены імкненнем
На ўсход сонца, на ўсход сонца...

З год раскіданага смецця,
З учарайшага стагоддзя
Усмешкай мёртваю смяецца
Спарахнелае мастацтва —

Каланады пышных храмаў,
Сцены гордае Элады,
Чорных прывідаў герольды,
Чорны твар ілжывых масак...

Што было, што адзвінела
Без тугі, без слёз, без следу,
Што закрэслена навекі
Год бязлітаснай рукою —
Адыходзьце, адлятайце!

Хочу крочыць, хочу ймчацца
У вялікія стагоддзі,
Што нітуюцца ў аддалі, —
На ўсход сонца, на ўсход сонца...

Перуны адбушавалі,
Адгрымелі навальніцы.
З дзён разбітых вырастае
Постаць гордая комуны.

Чуеш? — мякка звоняць кельні.
Чуеш гулкі крык жалеза?
Кроў зямлі агнём пульсуе,
І зямля расце да сонца...

Хто шчаслівы жыць сягоння,
Хто кладзе муры стагоддзяў,
У каго, як сталь, цяглiцы
І палёт надхмарны думак —

Панапружвайце цяглiцы!
Напружыньце ўзлёты думак!
З новай песняй — нашай песняй
Узнімайцеся, ідзіце —

На ўсход сонца!
На ўсход сонца!

* * *

Агнямі і кроўю сардэчных паэм,
Ваганнем артэрый няспынным
Мы славу, вялікую славу пяем
Табе, дарагая краіна!

Хай кожнае слова і кожны уздых
Звініць галасамі баянаў
У далях балотаў і багнаў сівых,
У проймах бялёсых туманаў!

Няхай у суровыя высі твае
Пад згукі шырокага рання
Бунтоўная праца штандар узвіе,
Чырвоны штандар будавання!

На сінім балоце, дзе багна і мох,
Дзе бросня і водар багунны,
Няхай пракладзецца у будучнасць мост
Пад рэйкамі гулкай чыгункі.

Няхай праімчыцца гарачы цягнік
З эпохі крыві і нягодаў
І рушыць сабою уздымныя дні
Вялікіх гадоў і стагоддзяў.

Агнямі і кроўю чырвоных паэм,
Сталёвай хадой індустрыі
Мы славу, вялікую славу пяем
Табе, дарагая краіна!

*1928 г.*

* * *

Сягоння так блізка, знаёма
Пачуў я напевы вясны.
Сягоння я з ціхага дома
У далеч акно адчыніў.

Вакол лістападныя клёны
І светлыя лоні далін...
І думкі ў вясёлай пагоні
Лятуць у прасторы зямлі.

Я бачу — вясны агнявеі
Імчацца ў жытнёвы абшар,
Хаця... лістападам чарнее
Хлусліва, стары каляндар.

Ён штосьці гаворыць пра восень
Пра жоўтых лістоў перазвон
І дальнія песні прыносіць
Балотных гасцей — жураваў...

. . . . . . .

Абозы калгасныя з хлебам
У горад ідуць чарадой...
І вісне асенняе неба
Над шыр'ю зямлі залатой.

## ІДУ

Іду дахаты ў вечар цёмны,
Вакол жыты... вакол жыты.
У плячах — ад працы слодыч стомы,
Іду, вакол жыты... жыты...

Халодна-цёмнае калоссе
У твар мне пыршча кроплі-росы,
І звоняць сонныя лады
Аб шчасці вечна маладым.

Іду. З нябёс глядзіцца месяц.
У прасторы — ноч і ціхі сон.
Палынны водар нікне дзесьці
У моры срэбраных аўсоў.

Пшаніца сонна хіліць пасмы,
У расе бульбовыя кусты.
Іду стамлёны да калгаса,
Вакол жыты. Вакол жыты.

*1929 г.*



## НА ПАЛЯХ

Дзе гоні сінеюць, дзе шэпчуць бары,
Дзе сцежкі у восенскім пыле,—
Трыццатыя суткі шумяць цесляры
І змеямі шархаюць пілы.

Капаюць упарта няворыны дол,
Чарнобыль адвеку нязрушны.
Апілкі імчацца бялявым дажджом,
І свішчуць вясёлыя стружкі.

Не стоміць сякера рукі цесляру!..
Разносіцца гоман наўкола.
І сцены ўзрастаюць памалу ўгару
З гатовую шыльдаю «Школа».

І мала-памалу кладуцца рады,
Растуць за ізрубамі йзрубы,
Каб новыя песні й другія гады
У іх абвянчаліся шлюбам.

. . . . . . . . . . .

Вясновыя песні вясновых ладоў
Упрыгожвала лісцямі восень.

І нібы дзесяткі мінулых гадоў
Зняліся з плячэй гарацешных дзядоў
Пад говар і смех маладосці.

І доўга цягнуўся вясёлы банкет,
Якога не чулі разлогі,
Якога не бачыў ніякі паэт
Ніякай эпохі...

*1929 г.*

### ЖНІВО

Дзе ад раніцы вісеў туман
І гайдаўся вецер зухаваты —
Заглядзеўся ў неба, задрамаў
Аржаны асілак — элеватар.

Заглядзеўся на далёкі шлях,
А за шляхам, дзе прастор мігціцца,
Спачывае чорная зямля
Пад снапамі цяжкае пшаніцы.

Сёння рана з сонейкам туды
Грамадой вясёлай, незвычайнай
Паплылі, пастаўшы у рады,
Жнейкі і нязграбныя камбайны.

Пад нябёс гарачай сінявой
Жыта захісталася ў даліне...
Пачынай савецкае жніво
На прасторах палявых, машына!

Паглядзі, — на залатых палях,
Галавой падпёршы чару неба,
Элеватары сумуюць па руччах
Чыстых зерняў залатога хлеба!

Пад радзімай нашай сінявой,
На палях шырокай Украіны —
Пачынай совецкае жніво
На прасторах палявых, машына!

Хмаркі, стаўшы ў белыя рады,
Паплылі над полем ураджайным.
Сёння рана з сонейкам туды
Адышлі жняяркі і камбайны...

Свеціць сонца. Спёка. Знік туман.
Шэпча вецер лёгкі, зухаваты...
Заглядзеўся ў неба, задрамаў
Аржаны асілак — элеватар.

*1929 г.*

* * *

Гаварылі звонкія цапы,
Заклікалі восень на даліны...
На таку мякінны гостры пыл,
Ля асеці груд каласавіны.

А насупраць новае гумно
З гучнаю арцельнай малатаркай.
Восень цэдзіць бурае віно
На лісты расквечаныя ярка.

На узлессі шастаюць лісты,
А лясы, як птушкі, затужылі.
На загоне грэчкавым пустым
Журавы махаюць белым крыллем...

Восень ходзіць, кідае лісты
Ды бярэ ў балоце журавіны,
А як пройдзе — шастаюць лісты
І злятаюць з дрэваў на даліны.

Гэткі добры, гэткі любы час,
Хоць і сум агортвае паволі.
Малатаркі звоняць раз-у-раз.
— Ла-та-та! — разносіцца па полі.

Гаварылі гумны на зары,
Заклікалі восень на даліны,
Вось і восень ў золаце гарыць
І кідае лісце ў каляіны.

— Ла-та-та! — заходзяцца цапы...
— Ла-та-та! — імкнецца дрыгаценне
На таку мякінны гостры пыл,
Лёгкі пыл апаў на прыгуменне.

*1929 г.*
*Мсціслаўль*

## ЗВАРОТ ПАРТЫЗАНАЎ

Ой, на полі звон капытны,
Рэха ронячы, імкнецца.
На дарожаньцы прыбітай
Пыл стаіць, не расплывецца.

Не сумуй, лясок лагодны,
Разуквецьцеся, паляны!..
Едуць з песняю паходнай
Роднай вёскай партызаны.

Мкнуцца-рвуцца у блакітах
Стогны-звоны песні трубнай,
А наперадзе — Мікіта,
Любы, родны, русакудры.

Станьце, станьце, партызаны,
Злазьце з сёдлаў, злазьце з коней!
Звонкім свістам уабраны
Зазвінелі вокал гоні.

Зазвінелі, засвісталі,
Засмяяўся ясень статны.
Коні жаркія пасталі
Каля кожнай роднай хаты.

І сышоў з каня Мікіта,
Прытуліў к сабе Мар'яну.
Ой, шырокая ракіта,
Больш не будзеш ты заспанай!..

— Не паеду, не пакіну
Цябе, люба, больш ніколі... —
Заміраюць гукі, гінуць
У далёкім росным полі.

Ды быльнёг сухі зашастаў
У сініх песнях недапетых, —
Не загіне болей шчасце
У залатых палях Саветаў!..

*1927 г.*
*Мсціслаўль*

## ЗА МНОЮ ДАЛЕЧЫ ПАЛЁЎ

За мною далечы палёў,
За мною шыр калгасаў...
Напевы шахтаў і станкоў
Мне чуюцца з Данбаса.

Цягнік ізноў імчыць угрунь,
Дае гудкі няспынна.
Бывай, уздым фабрычных труб
Рабочай Украіны!

У тваім прыбоі гарадоў,
У маторным дрыгаценні
Я песню новую знайшоў
І новых мар адценні.

Ледзь толькі месяц у дазор
Між зорак паблукае, —
Здаецца мне, што я шахцёр
З лапатаю і кайлам.

Чакаю сонца і гудка,
Чакаю ранні золак,
І цісне моцная рука
Мой цяжкі верны молат.

Кідаю позірк за гару,
За купіны старыя...
Ўстае асілкам Беларусь
У шлеме індустрыі.

...За мною далечы палёў
І чорны дым Данбаса...
Цягнік імчыць мяне ізноў,
Віюцца рэйкі пасам.

*1929 г.*
*Курск*

## УЗДЫМАЮЦЦА РЫШТАВАННІ

Уздымаліся рыштаванні
Цытадэллю ад буйных бур...
Хто міне, а хто раптам стане
І глядзіць на высокі мур.

Мур высокі, і весела цэгла
У муляровых руках звініць...
Хутка будуць тут сцены цэхаў
І заводскіх акон агні.

Кельня ляскае бранзалеткай
І на цэгле раджае звон...
Ваганетка за ваганеткай...
І на сонцы сохне бетон.

А ўгары,
дзе пяюць антэны,
Дзесь высока, там — угары
Заспявалі на ўзвышшы сценаў
Вясёлыя муляры...

. . . . . . . . .

Я спыняюся ў захапленні,
Песні слухаю муляроў...
Мур кідае даўгія цені,
І вясёла пульсуе кроў.

Знаю —
　　　　край мой ідзе ў змаганні
За машыны,
　　　　　за кожны мур.
Уздымаюцца рыштаванні
Цытадэллю вялікіх бур.

* * *

У размернасць строгую слоў
Укладу я сягоння жаданні.
Песня знікне і прыйдзе ізноў,
Завіхруецца палкая кроў,
То — змаганне.

Як гавораць, мінаюць гады...
Дзень мінае, прыходзіць наступны.
Дзень наступны — дзень малады
Парыванняў і клопатаў рупных.

Дзень наступны! Вітаю цябе
У жыватворчым і радасным плёне...
Ў гордым ходзе і барацьбе
Зменіш ты агнязарнае Сёння.

У тваё залатыя агні
Зазірнуць-бы...
　　　　　　　а потым хай грозяць —
Хоць і смерць... хоць і гэтыя дні,
Абарваныя на поўдарозе.

## У ВАГОНЕ

*Юлію Таўбіну*

Я еду ў вагоне ў ліпнёвую ноч,
Ліпнёвыя ветры пяюць за акном,

Ліпнёвыя ветры, раскінуўшы дым,
Цягнік даганяюць, спяшаюцца з ім...

Праносяцца міма, стаяць ля гары
Далёкія гоні, чужыя бары...

Цягнік праміная — спяшыць на начлег,
Яшчэ не закончаны ночны прабег...

Ягоная справа — вязі і гані!..
Мне сумна ў вагоннай сядзець цішыні.

Пытаю ў суседа — куды едзе ён,
І ён неахвотна гаворыць праз сон:

— Вось тут недалёчка поўстанак, а вы?..—
І сон адганяе кіўком галавы.

Спрачаюцца колы пад намі ўначы,
Цягнік не спыняецца — далей імчыць...



— Я еду далёка-далёка, стары!..
У далёкія далі, ў другія краі...

Цягнік праімчыцца шмат цёплых начэй,
Пакуль даімчыцца да мэты маей...

Нямала ля станцый, для новай хады,
Цягнік будзе браць і апалу, й вады,

Каб вуглем сагрэць у дарозе нутро,
Каб смагу яму прахалодзіць вадой...

— Далёка, каханы мой!—дзівіцца дзед,—
І, пэўна, нямала каштуе білет?!

— Стары! За дасяжнасць да мэты маей
Плачу я гарачаю, чыстай крывёй...

Найлепшыя грошы, найлепшы разлік —
Струменні натхнёнай юнацкай крыві.

Разліць гэту кроў і аддаць за вясну,
За тысячы вёснаў, за мэту адну!..

— Штосьдзіўна, каханы мой!—дзівіцца
дзед,—
Такога разліку не бачыў нідзе...

Я быў у акопах, страляў на франтах
І ліў сваю кроў на Маньчжурскіх палях,

Прыгнёт я трываў і пакуту, і здзек,—
Твайго-ж я разліку не бачыў нідзе...

— Маўчы, безразважны, пакутны стары!..
Мы кроў аддаем за другія краі...

Краі будавання і мараў палац —
За гэта крывёй толькі можна аддаць!..

Аддаць сваё сэрца і кроў, і вясну
За тысячы вёснаў, за мэту адну!..

...Цягнік даў прарэзлівы моцны гудок,
Сусед мой заснуў, паваліўся на бок...

Цягнік закрычаў і заляскаў мацней
У знак, што зусім разумее мяне...

Ён мчыцца, нервовы... ў запале імчыць,
Кідаючы крыкі ў ціхай начы.

Ліпнёвыя ветры, раскінуўшы дым,
Цягнік даганяюць, спяшаюцца з ім.

*1929 г.*
*Мінск — Орша*

## УЗОРНЫЯ ЛІШТВЫ НА ДОМЕ

Узорныя ліштвы на доме,
На ліштвах рукою гарэзнай
Якісьці мастак невядомы
Цудоўных фігур навырэзваў.

А там, у акне, з-за фіранкі
Дзяўчына глядзіць і смяецца
І штосьці таўчэ беспрастанку
У бліскучай мядзянай мяжджэрцы.

Ударыць, і ўдар металёвы,
Як музыка, чуцен адгэтуль,
І песень вясёлыя словы
Раджаюцца ў сэрцы паэта.

Радачка, ну дзе цябе знаў я?
А стрэча ізноўку ці будзе?..
Мне сум нешта зноў заціскае
Мае неспакойныя грудзі.

Скажы!.. — А дзяўчына фіранкай
Закутала вокны са смехам...
І смех на вішнёвым прыганку
Рассыпаўся срэбным рэхам.

На даху ўсміхнуліся ляскі,
Замоўклі ў цішы аканіцы...
З якойсьці забытае казкі
Мне гэтая песня трызніцца.

*1929 г.*

**РАЗВІТАНАК**

Забывайцеся, цьмяныя ночы —
Маё першае цяжкае ліха!
За тваe невыказныя вочы
Я па свеце пайшоў маталыгай.

Не такі ўжо я прыкры лагоднік,
Каб аддаць свае песні за лоні.
Маё сэрца гарыць, як паходня,
На пустым неўзараным аблонні.

Пацалункамі вусны мне паліш,
Але вось з улюбёнай купалкай
Развітаецца заўтра купаліш,
Кучаравы, зялёны і палкі.

Пацалункамі вусны мне паліш,
І заходзіцца сэрца ад болю...
На ірдзельным зялёным купаллі
Я знячывілі кінуўся ў поле.

Прывітайце, лясы і даліны,
Затуманьце чарнявыя вочы!..
Конча ў сонца шукаць цеплыні мне! —
Яе ў сэрцы знайду колькі хочаш.

Дык забудзьцеся-ж, палкія ночы —
Маё першае горкае ліха!
За твае невыказныя вочы
Я па свеце пайшоў маталыгай.

*Верасень 1929 г.*
*Смаленшчына*

## ВЫБЯГАЛА ЛЮБАЯ З ХАТЫ У ПРАВОДЗІНЫ

Выбягала любая з хаты у праводзіны,
Сцежкі упрыгожыла галлямі смуродзіны,
Як ішла ў праводзіны.

А за тымі сцежкамі, ў далячыні пеннай
Зара-заранiца мыецца купенай,
Белаю купенай.

Белаю купенай, ціхімі стакроткамі,—
Каб-жа тыя сцежачкі не былі кароткімі,
Не былі кароткімі.

Дзякуй табе, любая! Я даю абетку—
Завітаю хутка я, завітаю ўлетку,
Завітаю ўлетку.

Сустракай на выгане ўвечары ў нядзелю
З звонкімі лічбанамі, з яркаю бандэляй,
Сустракай ў нядзелю.

Завітаю ўвечары, завітаю ўпрыцем
З доляю шчасліваю ды з інакшым жыццем,
З доляю і з жыццем.

*1929 г. Красавік.*
*Смаленшчына*

* * *

Хай верш мой раскажа
Пра воплеск і звень,
Пра бойкі адважных,
Пра сённяшні дзень,

Пра наша натхненне
Вячыстых будоў
Суровым гарэннем
Растопленых слоў...

І буду шчаслівы,
Калі гэты спеў
Праймчыць па краіне
У плённай сяўбе,

Калі ён пакліча
Бязмежную рацьць
Дарогай касмічнай
Ісці будаваць,

Калі праімчыцца
Між родных мне мас
Бунтоўнае, гордае
— Наш!

*1929 г.*
*Мсціслаўль*



## ЛІРЫЧНАЯ ЗІМА

Як вецер песні запяе
Пад зімавым завей разбегам,
Агні юнацкія паэм
Завеяць студзень хоча снегам.

Ён разрысуе вокны мне
Цвятамі дзіўнае краіны...
У сумётах стане сыпкі снег
І разуквеціць сосны іней.

Камін загасне агнявы,
Як дроў бярозавых не хопіць,
І завіецца, як жывы,
У жэрале змярцвелы попел.

І пойдзе вецер, як жабрак,
З сняговай торбаю жабрачай...
Са злосці свісне у кулак,
З тугі заенчыць і заплача.

Ён будзе йсці сабе ў прастор
Ад вёскі шэрай і да вёскі,

І будзе слухаць чорны бор
Шалёных песень адгалоскі.

Радача любы, ты з пуцін
Поўночных веяў і сумётаў
Ка мне да хаты прыляці
У час натхнення і самоты!

Прыйдзі, як будзе сніць зямля
Пра дні вясны зялёнавокай,
І грукні ў дзверы: «Гэта я
Прымчаў з шляхоў сваіх далёкіх...»

Тады патроху раскажы
Пра горды сум дарогі снежнай,
І пра Урала рубяжы,
І пра сібірскі гул таежны...

Як спяць на поўначы маржы,
Як спяць нарвежскія фіёрды...
Як ля ільдзістае мяжы
Лёг акіян халодна-горды.

Я зачаруюся на міг
І пад сняжыстыя павевы,
Пад гул дарогаў снегавых
Складу вясновыя напевы...

Румянкі яркія паэм
Зачырванеюць на марозе...
А ты—мне песні запяеш
І снегам стукнеш на парозе.

*1929 г. Снежань*
*Мсціслаўль*

## ЛЕС

Зноў ты, лес!.. Дыхнуў і будзіш сілы...
Зноў шумяць дубовыя лісты.
Лёг таемна змрок зялёна-сіні
На твае вяршыні і кусты.

Сцёжка, пратаптаная звярамі,
Цягне у нязведаны паход.
На траве — вясёлкавыя плямы
Сонца і расквечаных лістот.

Радасна і шумна лес ракоча...
Ён — не мне. Я знаю, што не мне...
Кожная галінка і лісточак
Ладзіць гімны проспе і вясне.

У гэтым шуме — радасць і прыгожасць,
Лес шуміць і шастаюць лісты.
Ногі дзеразою мне трыножаць
Нізкія пукатыя кусты.

. . . . . . . . .

Ціха йду. Шумяць-звіняць асіны.
У траве звярыныя сляды.
Зноў ты, лес! Дыхнуў і будзіш сілы,
І шумяць дубовыя лісты.

*1929 г Чэрвень*
*Смаленшчына*

## ПА ВЯРШЫНЯХ ШУМНЫХ СОСЕН

Па вяршынях шумных сосен
Хісткім крокам крочыць свежасць.
Узняліся ўгору, ў просінь
Бору гольчастыя вежы.

Мора моху. Мухаморы
Чырванеюць на узлессі.
Лес-пралесак. Росы-зоры.
Тонкіх тропаў шэпты-песні.

Добра крочыць стромкім борам,
Соннай сцежкай слацца слаўна!
І душу аддаць прасторам,
І забыцца ў стоме баўнай.

Ціха йду. Ліецца просінь
Праз ігольчастыя вежы.
Па вяршынях шумных сосен
Хісткім крокам крочыць свежасць.

*1930 г. Чэрвень*

* * *

Пакідаю, пакідаю
Вуліц роспачны прыбой,—
Чую—неба расцвітае,
Чую зоры над сабой.

Прада мной гарыць зарою
Казкі-захаду пажар.
Нада мною, нада мною
Залатыя звенні хмар.

Пабрыду цяпер туды я,
Дзе шырокія сады,
Дзе на гоні залатыя
Дождж павіс, як сіні дым.

Дзе у квецені красуе
Вечны травень, вечны госць...
...Дзе натхнёны я пачую
Ў кожным слове маладосць.



## У ПОРЦЕ

Цэлы дзень ішла работа ў порце,
Разгружалі баржы, караблі...
Цэлы дзень у морскай пазалоце
Снегавыя ветразі плылі.

У партовым горадзе заўсёды
Галасоў шумлівы перабой,
Пераборы морскія мелодый
І ў суровым рокаце прыбой.

На мастках смуглявыя матросы
Колькі песень ведаюць такіх
Аб краінах казачна-заморскіх
І тубылках стройных, агнявых...

Мора шэпча ласкава і квола
І калыша ціха караблі...
Паплыла медуза каля молу
Да крутой базальтавай скалы.

Спяць пад сонцам сінія прасторы,
Вецер ціхі хваль не скалыхне...

— Ёсць у вас, у Беларусі, мора? —
Запытаўся нехта у мяне.

Я смяюся весела й паціху...
У канатах вецер шалясціць.
Мора дрэмле, мора сыпле іскры,
Як агні поўночныя зарніц.

*Жнівень 1929 г.*
*Севастопаль*

* * *

Хвалі сонныя, хвалі дрымотныя мне
Сны забытыя зноў нагадалі,
Ты, мой прывід, плывеш і на хісткім чаўне
Ловіш сонечнай сеткаю далі.

І на дне, мабыць, гэткая-ж свежая гладзь,
Прахалода і сонечных блікаў трымценне...
Бачыш, — тонка-празрыстыя, ледзьве відаць —
Парасоны медуз на падводным камені.

І ніжэй, дзе сузмрок сіняваты імгліць,
Сцены белай маланкаю ціха мільгнулі...
Дрэмле морскае дно, і стаяць караблі,
Што з камандай калісьці даўно патанулі.

Пэўна —
бура была... наляцеў ураган...
Цераз палубу хвалі салёныя білі...
Збіты хваляй шалёнаю быў капітан.
І у ветразях глуха вятры галасілі...

Ноч і бура схавалі на дно караблі,
А як сонца плыло ў супакоеных далях —
Мора ціха сінела... медузы плылі
І бялявыя чайкі купаліся ў хвалях.

З таго часу праходзіць па палубе краб
І за бортам хаваецца, хуткі і жвавы,
Дзе схіліўся матрос, апускаючы трап,
Са смяротнай усмешкай на твары кастлявым.

*1930 г. Ліпень*
*Ялта*

## ВЕЦЕР НА МОРЫ

Быццам неба — шырокае сіняе мора.
Бесканцовасць і дальняя сізая муць.
Я стаю на спякотным пажоўклым узгор'і,
Там, дзе сонца і яшчаркі ў скалах жывуць.

Нескончоныя хвалі у безе разгонным
Паняслі мае думы, памкнулі кудысь.
Гаварлівых цыкадаў цымбальным стазвонам
Зачарована дальняя светлая высь.

Раптам...
Хмары набеглі, і даль пацямнела,
Забялеліся хвалі саянам снягоў.
У сталёвыя колеры ўбралася неба,
І па моры узмахамі вецер прайшоў.

І ад гэтай хады закудравіўся пенай
На затопленым пляжы рытмічны прыбой.
І паймчаліся хвалі, як белыя сцены,
Паспрачацца з далёкай пустой сінявой.

Але вецер праймчаўся...
і даль задрамала,
І чарнявыя скалы заснулі ізноў,
Супыніліся разам шумлівыя хвалі
І нібы апусціліся з пенай на дно.

Зноў, як неба, шырокае сіняе мора.
Караблі адплываюць у казачны край.
Жоўкнуць, смягнуць у сне залатыя узгор'і.
Між падводных каменняў застыў чорны краб.

*Севастопаль — Херсанес*
*1930 г.*



## СЛЕД ХЕРСАНЕСІТА

На пасцёртых часам плітах —
Часам ветру і слаты —
Гандляроў-херсанесітаў
Бачу хцівыя сляды.

Іх разбітыя узоры
Каланад і гожых пліт
Распласталіся на ўзмор'і
Грудай цэглы і зямлі.

У музеі ганарліва
Пазіраюць праз узор
Без афонскае аліфы
Стаі белыя амфор.

Вось на каменнай аблоне
Пад нястройны звон цыкад
Храм Зевеса й Апалона
Дыша рэштай каланад.

З тога боку бухты сіняй,
З дальніх, казачных краёў

Прабіраліся эліны
Да таўрыдскіх берагоў.

Там, за берагам зялёным,
Дзе расце магутны лес,
Мчацца скіфскія плямёны
Грабіць буйны Херсанес.

Ды сцяна стрымае плыні,
Скіфы з скалаў уцякуць.
І заморскія эліны
Да Таўрыды прыплывуць.

Будзе зноўку гандаль плённы
Перад храмамі багоў,
Зноўку барбараў плямёны
Хлеб дадуць ім і рабоў.

Пройдзе век і новы прыйдзе
На узвышшы белых сцен...
Колькі будзе у Таўрыдзе
Нечувана новых змен!

. . . . . . . .

Час прынёс другія плыні.
Скіф ў кургане дзікім спіць.
І заморскія эліны
Спяць у плесені грабніц.

Старажытныя кавалкі
Точыць мора з зор да зор,
І на дне хаваюць хвалі
Чарапкі былых амфор.



Дышуць сцены. Дышуць міты.
І разбурваюць гады
Гандляроў-херсанесітаў
Урачыстыя сляды.

*1929 г.*
*Крым, Херсанес*

## ПАЛУНДРА

Аб каменне мора б'ецца,
Караблі на бухты ймчацца.
Вецер, скалы... скалы, вецер.
Ймчыцца пены белай смецце
Пацярухаю купчастай...

Сцеражэцеся, матросы,
Разззлаваных морскіх нетраў!
Паглядзеце, — альбатросы
Нізка рэюць і так злосна
Гафелі гавораць з ветрам...

Налятае шквал і разам
Грудзі ветразям зрывае...
Б'е у бераг пенным пасам,
Падымае хваляў масы
І рагоча, і гуляе...

Зачараваны разбегам
Ветраў, хваляў белакудрых,
Шумна ў мора ймкнецца бераг
І крычыць у пене шэрай
Хрыплым голасам: — «Палундра!..»



Аб каменне мора б'ецца,
Залівае валам плёсы..
Вецер, скалы... скалы, вецер...
Ймчыцца белай пены смецце...
— Сцеражыцеся, матросы!!!

*1929 г.*
*Севастопаль*

* * *

Усё, што ў душы, як іскра, захавана,
Выбухне часам і кветкай бліснe,
І загалосіць струной злататканай
Аб жыцці і вясне.

Думкі глыбокія ў сэрцы так доўга хавалі!
Спейце, гадуйцеся! Прыйдзе вясна —
Усё расквітнее ў сусвеце у Маі.
Прыйдзе вясна.

Вы, мае думкі, таксама гадуйцеся, спейце! —
Усё, што у сэрцы юнацкім таю,
Вылью вясной на расквечанай флейце
Думку сваю.

*23/II 1928 г.*
*Мсціслаўль*



## НОЧ НА СТАНЦЫІ НЕГАРЭЛАЕ

### 1. Захацелася новых настрояў і слоў

Захацелася іншых настрояў і слоў,
Скласці думкі вясновыя ў новым парадку.
Растрывожаны гул дымавых цягнікоў
Праімчаўся з вятрамі па пыльнаму тракту.

Захацелася ехаць у дальнюю даль
Па шырокай, як светлае неба, краіне...
Апранаецца сад у зялёны паркаль,
І у небе віры каламутнае сіні.

Вось тады, пакідаючы станцый агні,
Патыхаючы дымам і нафтавым пахам,
Адыходзіў ад Мінску бясконцы цягнік
І па рэйках змяістых спяшаўся на захад.

Бо яму ўсё роўна кароткі прагон
Праімчаць з паравознаю дымкаю шызай.
І яго не ўсхвалёўвае слова — кардон,
І ў яго на мяжы не пытаюцца візы.

І вось гэткім звычайным, якім і прыйшоў
У палі Беларусі з далёкіх лагчынаў,
Будзе ймчаць ён спакойны за нашай мяжой,
І па рэйках грымець, і уздрыгваць няспынна.

Ён магутным гудком не адзін страсяне
З невядомых поўстанкаў свайго падарожжа,
І не здзівіць,— на станцыі польскі жаўнер
І над станцыяй дзёрзка узнесены «ожал».

Бо яму абыякавы станцый агні,
Шмат мінуў ён іх з дымам і нафтавым пахам.
Адыходзіў ад Мінска удалеч цягнік
І па рэйках спяшаў за кардоны, на захад.

## 2. Ах, не ў гэтым-жа справа!

Шмат я станцый страчаў у вандроўнай начы,
Але гэтай апошняй не бачыў ніколі,
Што ўвесь свет падзяляе на наш і чужы
На прымежным краі беларускага поля.

За якою — інакшасць і песень, і мэт,
І гады праплываюць не нашай чаргою,
За якою другі, мной нябачаны свет
І жыццё прамінае зусім па-другому.

Я люблю Беларусь, як каханак, як сын,
І таму не трываю пякельнага болю,
Што пастаўленым слупам, дзе шэпчуць лясы,
Падзяляецца напал радзімае поле.

І на гэтай палове, дзе ўсе мы жывем
І дзе нашая доля ўзрастае, мацнее,
Мы складаем пякельныя песні паэм,
Што дыктуюцца словам пахмурага гневу.

Ах, не ў гэтым-жа справа, што ёсць Беларусь
На Усходзе й на Захадзе!..

Справа не ў гэтым!
Гэта станцыя ставіць глухую мяжу
Для ўсяго невыказна вялікага свету!

І калі уяўляю, што там, за мяжой,
Вісне чорная ночка у колеры сажы,
Мне шкада не адной Беларусі маёй,
А падзелены свет неабсяжны.

Можа, ў час, калі гэтыя словы пішу,
Недзе там, за мяжой, за кардонам,
У Еўропе, начная трывожная жудзь
Прарываецца крыкам і стогнам.

І для тых, хто вясне пракладае сляды,
Патэнтованы кат і разбэшчаны вораг
За нянавісць да іх, за змагання гады
Піша чорнай рукою сваёй прыгаворы.

Не хапае душы змерыць гэтую жудзь
Аніякаму ў свеце паэту.
Гэта станцыя ставіць глухую мяжу
Для ўсяго невыказна шырокага свету.

### 3. Як кудры белыя бяроз

Як кудры белыя бяроз,
Шуміць вясновы свежы вецер.
На Негарэлае прывёз
Мяне цягнік у гэты вечар.

І потым далей ў ноч і сон,
У разгоне шпаркіх кіламетраў
Праймчаўся здання за кардон
З красавіковым сонным ветрам.

І вось тады, ў трывожны шум
Глухіх палёў і дум паэта,
Глядзеў я доўга на мяжу,
Мяжу зямлі шырокай свету.

Вось там, пад лісця сонны звон,
За колькі шпаркіх кіламетраў
Урываюцца цераз кардон
Савецкія начныя ветры.

Ляцяць без візы ў поля гладзь,
Да польскай дальняе Варшавы,
Чужым штандарам расказаць
Пра гордасць нашую і славу

Лятуць, мінаючы вакзал,
Вартуючы начную цішу,
Каб даць натхненне і запал
Асуджаным глухіх Лукішак.

І там далей, праз ноч і жудзь
І неабсяжныя дарогі
Ў палац міністрам прынясуць
Начную хісткую трывогу, —

Што па фабрычных гарадох
Расце пажар нямых аколіц,
Што ноч над змеямі дарог
І што на крэсах неспакойна.

Праймчаць у ночнай сіняве
Над Мусаліні, рымскім папай,
І зноў напомняць, што сусвет
Падзелены мяжою напал.

### 4. Цягнікі грымелі

Цягнікі грымелі ды імчалі...
Пад лістоў красавіковы грай...
Разам з сонцам залацелі далі,
Загараўся раніцаю край.

За акном міналі кіламетры
І з палямі роснымі плылі.
І шточас мацней спявалі ветры
Пра вясну, пра радасці зямлі.

І таму у дні трывог і буры,
Родны край мой, творца і паэт,
Я вітаю звонкія віхуры,
Што агорнуць песнямі сусвет.

І цябе вітаю, край машыны,
Што да нас завітвае цяпер!..
З добрым раннем, вольная айчына,
Аванпост СССР!

*Май 1930 г.*

## АБУРАНЫЯ

### 1. Пасля арышту

Рана-рана абудзілася Марыля,
Зрання чыста вымыла у хаце.
Ранне развярнула сваё крылле
Над зямлёй, як ласкавая маці.

І шальмуе сонца праз фіранку —
Каб дапяць туды гарэзным вокам.
Дзікі хмель завіўся каля ганку —
Вось дастане пальцамі да вокан.

Па сяле крычаць ад рання пеўні,
Гучна крыллем лопаюць агністым.
Любы сёння вернецца, напэўна,
З селавым чарнявым гарманістам.

Апаўдня забралі іх учора,
Пацягнулі ў горад павятовы.
Не дзівілася Марыля,—скора
Выпусцяць абодвух чорнабровых.

То-ж не дзіва,—на сяло прыходзяць
Панскія жандары ледзь не штодзень...



І чакаюць хмура год-па-годзе,
І гавораць ціха у народзе.

Ластаўкі лятаюць у сяпніцы,
У дзюбках носяць траўку і салому.
Войт казаў, што ў вечар-вечарніцу
Вернуцца абодвыя дадому.

І падміргваў хітра, валацуга,
І героем пахаджаў ля хаты...
А жандары коней бралі ў цуглі,
На яе глядзелі зухавата.

Але дзень — клубочак тонкай пражы —
Коціцца нястрымана за поўдзень.
Па дарозе з гораду ні разу,
Як на гора, дзень — ніхто не пройдзе.

І на сэрцы высіцца трывога
(Ластаўкі гукаюць у сяпніцы),
І глядзіць Марыля на дарогу,
Скуль павінен муж яе з'явіцца.

Вось і вечар захадам крывавым
Запаліў поўнеба ў колер медзі.
— Муж і сёння не прыйшоў з управы!.. —
Плакала Марыля ў суседзяў.

Гаварылі — панства вар'яцее
І шалёнай злосцю апантана,
Што ў дварах астрогаў ліхадзеі
Ставяць ноччу шыбельні патайна.

Ластаўкі чарнявыя, скажыце,
Ці не йдуць там людзі, ці не едуць?

Змрочны шлях змяіцца ў белым жыце
І знікае ў цемрадзі без следу.

Ластаўкі, чаму-ж так непакойна
Крычыцё ў трывозе і бяссіллі?
... Увечары хлапец прымчаўся конна
І прамовіў хрыпла: **«Засудзілі...»**

*17/I 1932 г.*

**2. Папялішчы**

Туман расплываецца над ракой
Труба пастухова кліча.
Там, за пагоркамі, за раўком
Шэрыя папялішчы.

Адпомсціце, мужыкі,
Каторыя 'шчэ жывыя!..
За светлай лукой ракі
Жанчына галосіць, вые.

Яна загубіла сваё дзіця,
Што ў жаркім агні згарэла...
Аеры звонкія шалясцяць,
Гуташацца лоз арэлі.

А ў шэлесце іх чутно
Роспачнае, страшное:
— Паслухайце, людзі,
Крычыць яно —
Бедненькае маё малое!

Ах, сонца лье над ракою кроў,
Дрыготкі туман калыша...
Сяло стаяла на сто двароў,
Засталіся папялішчы.

Там дзедаўскіх хатак стаяў табун —
З царквой і карчмою вёска.
Паны іх спалілі за «страшны» бунт
Супроць рэспублікі польскай.

Труба пастухова пяе, грыміць,
Плача, смяецца у полі.
Хацела сяло працаваць і жыць,
Хацелі сяляне волі.

Адпомсціце, мужыкі,
За волю сваю і хаты!..
Узмахам паручнікавай рукі
Былі агнём яны ўзняты.

Жанчына-вар'ятка, не галасі!..
Назад дзяцей ты не вымаліш.
У цябе засталіся дачка і сын,
Што ўпрочкі пайшлі жывымі.

Туман плыве над дугой ракі,
Вецер ў аерах свішча.
Адпомсціце, мужыкі,
За шэрыя папялішчы!

## 3. «Аддайце нашых бацькоў і дзяцей»

*Комсамолцы з-пад Нясвіжа*
*Клаўдзіі Гацько*

Гэтак глуха шуміць Навагрудак,
Прачнуўшыся раніцой...
Яго мучылі ноччу краты,
Мёртвых камер спакой.

Краты сніліся Навагрудку
І маўклівых дазорцаў цень.
Яго мучыла ноччу згадка
Пра ўвязнёных бацькоў, дзяцей

І, прачнуўшыся ў непакоі,
Праз панелі і праз дамы
Дэманстрацый худой рукою
Працягнуўся ён да турмы.

Несвіжанская комсамолка
Пад сэрцаў старожкі ўздрыг
Павяла іх халодным золкам —
Жанчын, дзяцей і старых.

Пабаяліся браць іх стрэлы,
Не наважыліся. А ў высі

Ярка словы сцягоў гарэлі,
Што вялі да астрогу ўсіх.

Гэты вецер ў смяротным танцы
Ад астрожных муроў ляцеў.
Ён іраваў тыя словы: **«Аддайце
нашых бацькоў і дзяцей!!»**

І з-за моцных чыгунных кратаў
Не адзін іхні слухаў сын,
Як паветра жалобай кратаў
Голас старых жанчын.

Але ім дзяцей не аддалі,
Але ім не далі бацькоў...
Адганялі іх усё далей
Ад турэмных глухіх акон.

І ў глухім гарадскім завулку,
Дзе паходу адбыўся спын,
Біла гума балюча, гулка
Па галовах старых жанчын.

Там па бруку у дзікім танцы
Гойсаў чорны уланскі конь.
Ён іраваў тыя словы: **«Аддайце
нашых дзяцей... бацькоў!..»**

Яны беглі — старыя, дзеці,
Уцякалі праз мёртвы плац...
...Ноччу горад заснуў і дзесьці
Захаваў іхні ціхі плач.

Сніў ізноў ён і слыхам вострым
Чуў, як біў каля крат багнет.

. . . . . . . . . .

О, дакуль-жа, браты і сёстры?..
Час паўстаць,
Запаліць сусвет!



#### 4. Над чорнымі хмарамі

Чорнатварыя хмары звісаюць
Па-над краем, адымленым чорна...
Спавіваюць яго паясамі,
Да зямлі прыціскаюць напорна.

І дзікунскі раз'ятраны вецер,
Адзначаючы свістам ярасць,
Узмятае ў шалёным імпэце
Зямляную адвечную старасць.

І трывожыцца снамі сучаснасць,
І глядзіць на далёкія зоркі,
Зоркі стынуць і гаснуць дачасна,
Лёс варожачы чорны і горкі.

Пралятаі стагоддзі, як сокал,
І без выйсця кружылі на свеце.
Тыя-ж зоркі гарэлі высока,
Той-жа ярасны блытаўся вецер.

Тых-жа хмар алавянае пер'е
На зямлю аблятала штодзённа.
Па калоніях чорнай імперыі
Мчаўся сковыт і енк прыгонных.

І цяпер, у стагоддзі суровым,
Напярэдадні бур і боек
Я ўзнімаю крывавае слова
І распальваю над зямлёю.

Чорнатварыя хмары звісаюць
Па-над краем, адымленым чорна,
І, віхруючыся ў гайсанні,
Вецер лётае непакорны.

Я звяртаюся да вялікіх,
І душою, і думкаю дужых, —
Час узняўся і час паклікаў,
Час баёў і суровай сцюжы.

Па чужацкім драпежным стане,
Па заплямленым ганьбай свеце
Хай імчыцца вястун паўстання —
Малады і памслівы вецер.

Чорнатварыя хмары звісаюць
Па-над краем, адымленым чорна,
Спавіваюць яго паясамі,
Да зямлі прыціскаюць напорна.

Хай-жа яркне, гарыць сурова
Слова мудрасці новай, кара,
Акрываўленай помсты слова,
Слова бойкі і змогі —

Ярасць.

*Снежань 1931 г.*



### 5. Абураныя

Гуташыў вуліцы іх рытм
Магутных крокаў... беглі людзі.
І на вітрыны гандляры
Спускалі моцныя жалюзі.

На іх глядзелі злосць і страх
І здрада з кожнай падваротні.
Іх вораг з зброяю ў руках
Чакаў на кожным павароце.

Ў той дзень у гнеўным моры сёл
Двары асаднікаў гарэлі.
І партызанскі шум лясоў
Трывожылі глухія стрэлы.

Той дзень, як сонца узышло,
Імчаў угрунь нястрымным бегам.
У той дзень сяляне за сяло
Вялі да шыбеніцы шпега.

Над фабрыкамі не вісеў
Штодзённы дым. Яны на плошчы
Абураныя выйшлі ўсе,
Каб гневу разлягаўся пошчак.

Яны ішлі рука ў руку...
Над імі кроў сцягоў гарэла.
І вось у здрадным тупіку
Ударылі раптоўна стрэлы.

Разбітыя... ішлі яны
І адбіваліся ў запале...
І дзеўчынка каля сцяны
На бруднай вуліцы упала.

...Увечары маўчаў тупік:
Да моргу трупы везлі ўпрыцем.
І сцены 'шчэ хавалі крык:
— Мы прыйдзем зноў!..
— Мы хутка прыйдзем!

*4/I 1932 г.*

## УРЫЎКІ З ПЕСНІ-ПАЭМЫ «ДВА ТАВАРЫШЫ»*

### I

Надышлі і навіслі хмары...
Ночанька, цёмная ночка.
Верасдёвыя сны. Выгары.
На балоце зялёныя кочкі.

Зялёныя кочкі ды ноччу чорныя,
Чорныя, як ночка чорная...
Па балоце плывуць яны чоўнамі,
Чоўнамі, засмучоныя...

Ды чаму-ж, верасок,
На балоце пасох,
Не зацвіўшы?

---

* Паэма навеяна фактамі масавага пераходу ў Краіну Советаў сялян Заходняй Беларусі ўвосень 1931 г.
Пераходзілі мяжу двух светаў з боем, з маёмасцю.
Пераходзіла моладзь — хлопцы, дзяўчаты з вечарынкі, з гармонікам.
Апошні факт лёг у аснову песні-паэмы.

Аўтар

Лета прайшло,
Восень прайшла
Па сасоннікавым зацішшы...

— Я з тугі пасох
Па зялёных лясох,
Па яловых іголак цвішшы...

Па жаданай волі,
Па ўраджайным полі...

Ды чаму-ж, верасок,
Так трывожна шасціш?
Ночанька... цёмная ночка.

А навокал ціш,
Ціш... ціш...
Балоты ды чорныя кочкі.

2

З вечарыны хлопцы йшлі.
Гармонічак, грай, грай!
З імі два таварышы —
У далёкі край.

Бывай, маці, бывай, тату
І сваяк-сусед!..
Не заходзячы у хату,
З вечарыны — ў свет...

Гэй, гармонічак,
Грай, грай!
Родная староначка,
Бывай!



Але-ж шкода, шкода так,
Што тут ні кажы, —
Будзе бэсціць пан-паляк
Па той бок мяжы.

Гэй, гармонічак,
Грай, грай!
Родная староначка,
Бывай!

А ці мо' вярнуцца зноў?
Мо' кідаць не варт?
Бунтам вёсак на паноў
Кінуць гневу гарт?

Не, гармонічак, не!..
Не застанемся у «роднай» старане.

3

— Згары яна, тая радзіма,
Нашай крывёй палітая!..
Сівер на цябе ды зімы,
Панская Рэч Паспалітая!..

Б'емся, як аб лёд рыбіна,
А дзе-ж тая доля-шчасце?
Ценямі чорных шыбеніц
Свет нам шырокі засціш.

Нам тая краіна — не родная,
Дзе панскі бізун адолеў,
Дзе крыўда балюе з нядоляй,
Дзе наша доля гаротная!..

. . . . . . . .

Гэтак гаварылі
Хлопцы з гармонікам.
Шапталі дзяўчаты,
Ідучы з вячоркі...

А сонейка села
За густым сасоннікам.
Сціхлі, пахаваліся
Па кустах гаворкі.
І гэтак зрабілася
Старожка...
Ціха...

Вечар.
Вецер.
Ціш.
Трывожна...
Дзяўчына заплакала:
— Ліха мне, ліха!..
Адказалі з сасонніку:
— Асцярожна!..

А сосны праходзілі міма і міма,
Расступаліся чорныя ліпы..
. . . . . . . . . . . .
— ... Згары яна... тая радзіма...
Што нашай... крывёй..., паліта...
. . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . .

4

Залаціла ўранні сонца пясок,
Закрываючы пажоўклы верасок,
Што ў тузе сваёй на волі пасох...



Страляніна сёння ноччу была,
Ля мяжы дзяўчына ніцма лягла
З заходне-беларускага сяла.

А яшчэ паваліўся ля мяжы
Беспрацоўны падгародненскі мужык,
Што заходзіў у Міколава сяло...

Два таварышы калісьці іх было...
Два таварышы учора іх было...

Пахіліўся верасок на пясок,—
Ён учора ад крыві тае пасох...

5

Там,
за мяжою,
упаў
мужык...
І вецер цела бічуе...
Ён тысячна кляты і выкляты лёс
Да самых прымежных слупоў прынёс...
Там,
за мяжою,
упаў
мужык,
І вецер цела бічуе...
Над панскай Еўропаю ночная муць
Агортвае біржы і банкі,
А ветры вар'яцкую варту нясуць,
Па краі снуюць беспрастанку...
Іх шлях — бездарожжа. Імя іх — хаос.
Іх голас — рыканне звярыных пагроз...

Што-ж там за трывога?
Што за спалох?
Мітусяніна ўзнялася...
Па кантыненце тысячы ног
Імчацца ў жаху і страсе.
— Вы чулі — стралялі?

— Дзе гэта? Дзе!
— У Варшаве?
— У Берліне?
— У Парыжы?
— Быў стрэл над Еўропаю...
... Узняўся дзень
Разбэрсаным клоунам рыжым...

— Цішэй там! Пакуль што трывогі няма...
Панове, чаго баіцёся дарма?
Што, стрэл напалохаў вас гулам?

Быў стрэл гэты з крэсаў...
На польскай мяжы,
Забіты насмерць, паваліўся мужык...
І наша рэспубліка ўчула...

6

Аднаго таварыша ў полі пахавалі,
У полі на узлессі, у Заходняй Беларусі,
Калі ў край далёкі — на поўдзень — адплывалі
З балотаў заходніх журавы ды гусі.

Кроплямі чырвонымі спелі журавіны,
Верасы шасцелі, сохлі над магілай.



Спі-ж ты, мой таварыш, на мяжы краіны,
Беднай, занядбанай, як твой крыж, пахілай!

Дзень расплаты грознай неўзабаве прыйдзе,
Прыйдзе гнеў чырвоны з яркімі вачыма...
Стане грозным тварам векавечнай крыўдзе,
Справіць зыск расплаты за сваю айчыну.

Стануць людзі з Пінска, Вільні і Гародні.
Стануць людзі грозна з гарадоў і пожняў.
Кожны стан пахілы, кожны твар гаротны
Будзе тварам гневу ў гэты бой апошні.

А пакуль — мацнейце, узрастайце, хвалі!..
А пакуль — гартуйцеся ў роспачы і болі!..

. . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Аднаго таварыша ў полі пахавалі,
На мяжы двух светаў, у Заходнім полі.

7

— Што-ж нарабілі мы, хлопчанькі?
Грай, гармонічак, грай...
Ночка, цёмная ночанька
На увесь наш край.

А мы той край наш спакінулі
На гора, на заціск той,
А мы на расправу кінулі
Сёстраў сваіх і братоў.

Плакалася Параска,
Слёзы ліліся жарка.

— Сынку, сынку, Тараска,
Парабак у фальварку!..

Думалі растрывожана.
Не дадумвалі да канца
Хлопчыкі з-пад Валожына,
Парабкі з Івянца.

— Што-ж нарабілі мы, хлопчанькі?
Грай, гармонічак, грай!..
Ночка, цёмная ночанька
На увесь наш край.

Грай-жа ты, грай, гармонічак!.
У невясёлай звіні гульбе...
Бедная наша староначка,
Спакінулі мы цябе!

8

Гармонічак, весялей!
Узорысты кант, кант,
Ходзіць зверам па сяле
Гад-паліцыянт.

На сяле туга і страх,
Свет зышоўся ў клін, клін...
— Дзе, пся крэў, твая сястра?
Куды дзеўся сын, сын?

— Сын мой вернецца, калі
Канец будзе твой, твой...



Калі грымне на зямлі
Бой, бой, бой!..

Запалаюць гарады,
Стрэхі нашых хат, хат.
Шмат паўстане іх тады —
Хлопцаў і дзяўчат.

Можа, й зараз для вайны
Дужаю гурбой
Ужо рыхтуюцца яны
У бой, бой, бой!

Сцеражыся, трасца ў бок!
Будзе страшны зыск, зыск...
Узварухнуўся Беласток,
Злосна чмыша Пінск, Пінск.

Гармонічак, галасы,
Знойдзем мы свой стан, стан!
Гармонічак, на басы
Стань, стань, стань!

Пад Варшавай, пад Гародняй —
Усюды будзе стан, стан...
Люд рабочы, люд гаротны,
Бураю паўстань!..

Добры дзень вам, маці, тату
І сваяк-сусед!..
Не заходзячы у хату —
Ў бой!.. Далей у свет.

*1931 г. Верасень — кастрычнік*

## ЕЎРОПА СЛУХАЛА МОЙ ВЕРШ

Стракаты, разаспаны звер
У зорных зморшчках і струпках,
Еўропа слухае мой верш,
Разлёгшыся ў мацерыках.

Суровы бізнесмэн-банкір,
Прыйшоўшы са сваіх кантор,
Узмахам левае рукі
Спускае столкі шчыльных штор.

Нагамі ўпёршыся ў дыван,
Сухі, крамяны і сівы,
Ён з рупару, як з клеткі льва,
Мой голас выпусціў жывы.

Шматлікіх хваль электраплынь
Перапыніў у сплíне ён,
Ён грэбліва мінуў Берлін
І вежы Эйфелевай звон.

І, як пакой напоўніў спеў
Расквечаных прасценкаў між,



Ён нечакана пабялеў,
Як не бялеў ад краху бірж.

За край, з-пад Гангу,
З Самалі,
За Бенарэсу дзікі крык,
За пот з Цэйлонскае зямлі,
За цяжкі хрып
Шанхайскіх рыкш,

За крэсы, край мой, над якім
Ён звіў вянок хаўтурных дзён, —
За ўсё
Ў той час
Нутром сваім
Пачуў ён цяжкі мой праклён.

За ўсё, за ўсё, што ён зрабіў,
Што ён наважваўся зрабіць,
Мной помсты дзень абвешчан быў,
Дзень грознай помсты, барацьбы.

А ноч ішла, як брудны звер
У зорных зморшчках і струпках...
Еўропа слухала мой верш,
Разлёгшыся ў мацерыках.

*1932 г.*

## НА БЕЛЫМ ПАГОРКУ

На белым пагорку
Мы гуртам юнацтва страчалі,
Курылі махорку,
Смяяліся ў ясныя далі.

На сонца, на зоры,
На цёмныя пушчы глядзелі,
У лясныя азёры
Кідаліся з белай адмелі.

З юнацкіх гасцёвак
На шлях выбягалі шырокі.
Між сцежак жыццёвых
Сабе выбіралі дарогі.

Расталі ў тумане,
Прабеглі, як лёгкія хвілі,
Гады нашай рані,
Якіх мы тады не лічылі.

Вайна і пажары
На нашую долю прыпалі, —

Варожыя хмары,
Цалункі смяротнае сталі.

Смыляць нашы сэрцы,
Працятыя гневам і болем.
Час іхняе смерці —
Час клятвы святой перад боем.

Хоць крыўдна, хоць горка —
Будзь мужным і цвёрдым, як крэмень.
На белым пагорку
Сваю перамогу мы стрэнем.

*1943.IV*

## РУСАЛКА

Ля крыніцы ў бары я сустрэўся з дзяўчынай,
Дзе забытых руін абамшэлая цэгла.
Колькі часу прайшло, а забыць немагчыма.
Колькі спраў і падзей паміж намі прабегла.

Колькі майскіх начэй мы прабавілі з ёю
Ля крыніцы ў бары, над забытай руінай.
Яна гэткай была веснавой, маладою!
Яе звалі русалкай — лясною дзяўчынай.

Размятала вайна нашых ясеняў лісце
Ля забытых руін, на сасновых прагалках.
Беларускія хлопцы на ўсход падаліся,
У беларускіх лясах засталася русалка.

Зноў гараць беларускія нівы і хаты.
Над руінамі ўкленчыла ў путах краіна.
У няволі ў нямцах сохнуць нашы дзяўчаты.
Беражы цябе, божа, русалка-дзяўчына!

І лятуць і грымяць па краі ураганы,
Гэта помсты народнае вокліч лунае.

Ля забытай руіны ідуць партызаны,
Іх вядзе цераз пушчу дзяўчына лясная.

Яе лічаць русалкай за доўгія косы,
За прадонныя вочы, за дзіўную ўдачу.
Яе немцы няўлоўнаю лічаць якойсьці,
Па ёй кулі і шаблі нямецкія плачуць.

Воз чырвонцаў гестапа дае за спайманку,
Ды русалку жывою спаймаць немагчыма.
Яна дзеўчына з пушчы, яна партызанка,
Яе клічуць русалкай — лясною дзяўчынай.

*1943 IV*

## ПОМСТА ПАРТЫЗАНА

Гостры позірк з хітрынёй,
Валасоў імшыстых ворах.
— Гутэн таг! — Перада мной
Першы раз так блізка вораг.

Ён працягвае руку.
Ён запрошвае садзіцца.
Вось мы з ім ў адным кутку —
Дружбакі ды ўсё, як быццам.

Для яго я — хлопец, рус.
Быў у лесе. Звык бадзяцца.
І цяпер за хлеба кус
Сам панам гатоў прадацца.

— Сядзь, мейн лібэр... Водка? Гут!..
Зараз будзем паабедаць.
Партызан не бачыў тут?..
Мы пашлем цябе разведаць.

Будзе добра — вундэршон!
Будзе з Дойчланд вельмі дружба.

Будзе водка, самагон,
На нямецкай кухня слюжба.

Ой, як добра! Я гатоў.
Мне — на кухню? Дзякуй — данке!
Сыплю жмені п'яных слоў,
Сыплю фрыцу абяцанкі.

І закусваю, і п'ю,
Ем і п'ю — які тут сорам! —
Ты не знаеш, так тваю,
Што прыйшоў я з прыгаворам!

З прыгаворам над табой
Партызанскага савета.
Але ты сядзіш са мной
І не ведаеш пра гэта.

Каб ты знаў, што «сябра» твой —
Лепшы друг тае дзяўчыны,
Што замучана табой,
Згвалчана табой, скаціна!

Я маліў слязой, крывёй
Камісара, камандзіра,
Каб далі мне вырак твой,
Выканаць твой смертны вырак.

Камандзір мне: «Хлопец, ша!
Ну заб'еш. А сам — на звалку?»
Я яму: «Баліць душа.
Я любіў яе 'шчэ змалку».



Ён мне: «Ўдасца — прывяду
Да цябе жыўцом. І годзе»...
Я ім: «З месца не сыйду,
Покі не дадзіце згоды...»

Камісар тут: «А калі-б
Падысці такім манерам...»

Камандзір падумаў: «Сып!
Ды глядзі ў мяне, халера!..»

— Вып'еш? Можна і яшчэ —
Мне не спешна. Мне 'шчэ рана.
П'ю, не зводзячы вачэй
З парабелума-нагана.

Вырваць хіба? Не, — нажаль,
Вельмі дужы фрыц. Не ўдасца.
Вось — каб гэты нож — кінжал
На стале з бліскучым лязцам.

Мы гаворым. Ён — як змей.
На стале трохвёрстка-карта.
Вечар робіцца цямней.
Кацялкі пабрала варта.

— О мейн лібер кінд! Ві — гут!
Ві на грос гешэфтэн варты!..
Я крычу яму: «Капут!..»

І хапаю нож з-пад карты.
Р-раз — навотмаш! Раз — ізноў!
Бачу — фрыц ужо зялёны...

Я кідаюся ў акно.
Ўслед мне — стрэлы і праклёны.

Штось скубнула за нагу.
Штось за карак укусіла.
Я качуся. Я бягу —
Як нясе нячыстай сілай.

Потым раптам — ноч і боль...
Я ляжаў. Мяне цягнулі.
Здэцца, быў нядоўгі бой.
Па суках хлясталі кулі.

Снілася пазней яна,
Снілася жывой Галіна.
— Кроў за кроў! — я прастагнаў.—
Ты адпомшчана, дзяўчына!

А праз месяц — зноў у бой.
Жыў. Здароў як бык — што нада.
На душы цяпер — спакой.
... Вось і ўся мая балада.

*20/IX 1943 г.*

## СПАЛЕНАЯ ВЁСКА

### I

Над сажалкаю тужаць ліпы,
Па ветры гойдаючы шаты.
Ім сняцца шумныя сялібы,
Вясковы ранак і дзяўчаты.

За бугаём каровы самі
Ідуць на пасціва з рыканнем.
Дым пахне хлебам і блінамі,
І добрым сном, і хатнім раннем.

Ідуць у жоўты жнівень людзі
З касамі, з песняю бяспечнай...
Здавалася, што так і будзе,
Здавалася, што так навечна;

Што вечна будзе — ранак, вечар
І ноч з салодкім адпачынкам,
І голас песні чалавечай
Над плодным здобраным суглінкам.

2

Яны прыйшлі... З якой планеты?
З якога краю і сяла?
Знянацку рушылі ў багнеты,
Як пудкі злодзей — з-за вугла,
Як воўк, згалелы да шкілета,
На цягавітага вала.

Здаецца-б, людзі? Не, не людзі.
Звяры? Не бачылі такіх.
У крыві па пояс, сэрцы ў брудзе,
Жывая смерць дзяцей, старых.
Зямля, свае парваўшы грудзі,
Нямцамі ахрысціла іх.

І дымам, дымам сталі хаты,
І пусткай сталі гарады.
І бег народ, з дамоў прагнаты,
У лясы, у пушчы, хто куды —
Усе байцы, усе салдаты,
Сябры адзінай грамады.

Па цёмных пушчах вокліч рынуў
«Да зброі ўсе! Да слаўных дзей!
За волю, шчасце, за айчыну!..»
І людзі рушылі хутчэй
У атрады — паляваць звярыну,
Што з хаты выгнала людзей.

О любы край! Твае законы —
З сівое мудрасці вякоў.
Іх зноў пацвердзілі загоны
І гнеўны роздум мужыкоў,



Дзяцей замучаных праклёны:
«Бі! Смерць за смерць і кроў за кроў!»

3

Дзе тая вёска, тая хата?
Дзе добры кут касцоў і жней,
Што жыў ні бедна, ні багата,
А да багатага бліжэй?

Дзе тыя мілыя нам душы?
Дзе імі выпешчаны сад? —
Вясковы сад, дзе спелі грушы
І сыпаў лісце лістапад.

Няма той вёскі, той сялібы.
І хаты ў пяць акон няма.
Пажарышча вартуе ліпа,
Поўабгарэлая сама.

Пажарышчы ў пустым завуллі.
І толькі коміны пячэй
На папялішчах — як бабулі
Над трупамі сваіх дзяцей.

Тут былі справы нелюдскія.
Тут за бацькоў — за партызан
Гарэлі дзеці і старыя,
Сядзібы вечныя сялян.

Пажарышча ляжыць, як дата,
Як сургучовая пячаць
На тым прыказе каменданта:
«Спаліць. Тубыльцаў расстраляць.»

Яшчэ чуваць той крык смяротны.
'Шчэ носіць вецер стогн пакут.
А цёмны лес шуміць гаротна:
«Хай пухам вам зямля. Мы тут...»

«Мы тут!..» і ў золкі ранак хмуры
Кусалі вусны ў кроў бацькі,
Як шлі на штурм камендатуры,
Як рвалі фрыцаў на шматкі.

О любы край! Твае законы —
З сівое мудрасці вякоў.
Яны у кожным з нас — да скону:
«Мсці! Смерць за смерць і кроў за кроў!»

4

Над цёмным прудам тужаць ліпы
Тугою вешчаю крылатай —
Па жоўтых нівах, па сялібах,
Па дыме над сялянскай хатай,

Па ручаі, па буйным жыце,
Па песні ў вераснёвы вечар,
Па непахісным добрабыце,
Па ціхім шчасці чалавечым.

Чакайце, ліпы,— шчасце будзе!
Ледзь сціхне бою адгалосак —
Ізноў збудуюць вёску людзі
І сотні новых лепшых вёсак.

І будзе чутны спеў знаёмы —
Запеў дзяўчат... і лісцяў шорах.



І будзе гніць у чарназёме
Пракляты і забіты вораг.

І будзе лес шумець дрымучы —
Таксама, як шумеў спрадвеку.
І будзе вечным, неўміручым,
Нязломным шчасце чалавека.

*21/IX 1943 г.*

* * *

Абяцаўся колькі раз
Кінуць вершы і каханне,
Не хадзіць у позні час
Ля чужых акон да рання;

Не глядзець чужых дзяўчат,
Не чапаць тугія косы,
Не хадзіць любоў страчаць
На чужыя сонца-плёсы.

Абяцаўся ўзважваць перш,
Чым рабіць там што-якое,
Лепш упіцца, чым за верш
Сесці з гэткай галавою.

Што гарэлка! — Без віна
Кожны п'яны ў нас, паверце...
Вершы дзіўныя й без нас,
Ачмурэўшы, піша сэрца.

Колькі бачыў. Колькі жыў.
Колькі раз кідаўся ў схватку!



Я-б цяпер шчаслівы быў,
Каб пачаць усё спачатку.

Каб з сівое галавы
Срэбны груз гадоў быў зняты,
Каб спявалі — я і вы,
Каб кахалі нас дзяўчаты.

Я не стаў-бы абяцаць,
Я накрыў-бы стол гасцінны —
Вершы дзіўныя пісаць,
Піць віно жыцця няспынна.

*7/XII 1943 г.*

* * *

Не кажы, не абяцай,
Не бяры такое ролі!..
Ходзіць сонца. Шэпча гай.
Вецер блукае па полі.

На зямлю прыйшла вясна,
За сялом прысела з краю.
Адгадай — каторы з нас
Першы вымавіў «кахаю»?..

Не кажы цяпер, маўчы,
Не кажы — пачуе вецер...
Скажаш ноччу — уначы
Ціхім стане ўсё на свеце.

Не закідвай за спіну
Косы шоўкавыя — змеі.
Я спаткаў з табой вясну,
Я без слова зразумею.

Над сялом і за сялом
Пахне бэзам і язмінам...



Хай-жа будзе — ясным сном,
Ясным, светлым успамінам.

Ходзіць сонца над табой, —
Хай-жа ходзіць так няспынна!
Прытуліся галавой
Да маіх грудзей, дзяўчына...

*5/XII 1943 г.*

* * *

Паклянёмся любіць наш край!..
Паклянёмся, што ў нашыя сэрцы
Не ўкрадзецца ні страх, ні адчай,
Ні спалох немінучае смерці.

Мы у гэтым кляліся калісь —
У гады залатога юнацтва.
Гэты час і пара надышлі —
Клятвы нашыя мусяць спагнацца.

Той, хто вырас на гэтай зямлі,
Хто ўсмактаў яе цяжкія сокі,—
Ведай: час і пара надышлі
На геройства, на подзвіг высокі.

І цяпер, калі грому гармат
Кулямёт падпявае па-брацку,
Успомні брата забітага, брат,
Успомні, сын, скатаванага бацьку!

Будзем помніць, як цяжкі кашмар,
Як баёў і нягоды выснову —
Ненавіснага ворага твар,
Ненавісную ворага мову.



Паклянёмся Радзіму любіць!
Яна з верай на нас паглядае.
У нашых сэрцах жыве й будзе жыць
Наша даўняя клятва святая!

*6/XII 1943 г.*

III





## ГАННА

*(Аповесць у вершах)*

### І. Лісты аб каханні

І

Я-б хацеў майскай ноччу пачаць
Гэта доўгае апавяданне
Пра вясну, закаханых дзяўчат,
Аб расстаннях, аб дзеўчыне — Ганне.
Я-б хацеў, каб лады салаўя
Ў кожным слове маім прагучалі,
Каб і Вы гэтак сама, як я,
Маю Ганну душой пакахалі.
Я-б хацеў расказаць вам... але
Аб усім расказаць немагчыма...

Справа простая — ў нейкім сяле
Закахалася ў хлопца дзяўчына.
Хто-б заўважыў, калі і сама
Яна гэтага не заўважала?..
А тым часам у школе зіма
Ледзяныя зламала скрыжалі
На дзесятай балонцы, і ў свет

Вылятталі з дзесятага класа
Учарашнія вучні. Совет
Атэстаты раздаў. Пачалася
Мужнай сталасці й працы пара.
Вось тады і ўсвядоміла Ганна
(Да дабра ці мо' не да дабра)
Усю горыч і слодыч кахання.

Над ракою туман, нібы дым.
Пахне мятаю, водырам свежым,
Шэпча ночка — і ўсё аб адным,
Усё тым-жа размераным вершам:
«Ён паедзе, паедзе! А я? —
Без яго, без яго застануся!..»
За ракою рыдае баян:
«Без яго застанешся, Ганнуся!»
Хай-жа будзе хоць што!.. Як знарок
Падвярнуўся канверт, і паволі
Напісаў на ім сам алавок:
**«Толькі вам, і нікоменьку болей».**

2

А тым часам над белым сялом
Льецца спеў салаўёў несціханы.
І пад месячным срэбным святлом
Піша ліст да настаўніка Ганна:
«Я вам пишу, чего же боле!»
Дазвольце так да вас, Андрэй,
Пачаць мой ліст тугі і болю
Бяссонных дзеўчыных начэй.
Вам дзіўна будзе — нечакана
Мой ліст убачыць на стале —



Вы-ж не Онегін, не Тацяна
І я ў глухім сваім сяле.
Навошта я пішу? — не знаю,
Не ведаю таго сама...
Я вас люблю, я вас кахаю,
І мне здаецца — нездарма!
Скажыце — хіба выпадковым
Было то ў вас, Андрэй, калі
У красавіку з нязначным словам
Ќа мне вы ў класе падышлі?
«Вось сшытак ваш... тут аркуш вырван»...
(Навошта? Ќаб сказаць магла!) —
Сказалі вы, і раптам чырвань
Ваш твар пажарам заліла.
Якраз з тае пары паволі
Вы аддаляцца пачалі —
Вядома, вы са мною ў школе
Трымацца йначай не маглі!
Скажыце-ж: так, як ля бажніцы,
Як прызнаюцца дзеці ў сне,
Не як настаўнік вучаніцы
(Бо вы ўжо не настаўнік мне) —
Ці праўда тое, што ў паглядзе
Міжвольна прачытала я?
Што кожнай ноччу ў нашым садзе
Я чую ў спеве салаўя?
Я не дзіцёнак (і не ўрода),
І вы зусім 'шчэ маладзы —
Я знаю вашыя гады
(Пыталася у справавода), —
Што-ж дрэннага, як глянуць звонку
(Якую раду вам даю!),
Ќалі вы возьмеце за жонку
Былую школьніцу сваю?

З якою радасцю вас прыме
Мой бацька ў наш сямейны кут!
А вы — вы дайце тры гады мне,
Каб скончыць толькі інстытут.
Я знаю, што я трачу сорам,
Калі пішу вам гэты ліст.
Мне гэта самае з дакорам
Сказаў-бы кожны мараліст.
І хоць я гэта разумею,—
Маю любоў, маю тугу
У сабе трымаць больш не здалею,
Не маю волі, не магу.
Вы з добрай, з чулаю душою,
Вы — свой, вы — родны чалавек,
Вы зла не ўчыніце са мною,
А я вас не забуду ўвек.
І ні на кога не зъмяняю
Вас аж да старасці сваёй.
О, божа, як я вас кахаю,
Калі-б вы ведалі, Андрэй!..
Вось і школа. У раскрытым акне
Залацее святло. Пагукала...
— Ганна?! Ганначка, вы да мяне?!
— Так. Да вас... вы мяне не чакалі?
Вось вам ліст...
Падала і цішком
Знікла ў цёмных галінах язміна.
Гаслі зоры. Над ціхім сялом
Разлівалася ранне кармінам.
Над ракою туман, нібы дым.
Недзе ў хаце заплакалі дзеці.
Кукарэкнуў дзесь певень. За ім
Загарланіў другі, потым трэці.



3

У нядзелю гуляла сяло.
Пяць гармонікаў з бубнам грымелі.
На'т жанатых усіх павяло
У польку дзеля такое нядзелі.
У палісадах пад кожным акном
Пары, пары сядзяць, задзівіцца...

Што зрабілася са старшынём?
Хіба й ён захацеў ажаніцца?
Скача польку, разбі яго бог,
З сакратаршаю сельсовета.
Пэўна воўк недзе ў лесе падох,
Што пад старасць пусціўся на гэта.

А тым часам далёка ад іх
Да затокі лясной азярыны
У лёгкім чоўне плылі удваіх
Закаханы хлапец і дзяўчына.
У карчах ды ў густой дзерազе
Берагі з сіняватага глею,
А ў вадзе — ў чаратах ды лазе —
Снежна-белыя кветкі лілеі.

Ганна

Лес шэпча штось, а я не знаю —
Аб чым? І ўсё нібыта ў сне.
Вы пэўна будзеце з мяне
Смяяцца? Варта — я дурная.

Андрэй

Смяяцца? Гэта немагчыма —
Смяяцца з вас і з пачуцця!..
Вы — незвычайная дзяўчына,
А ліст ваш — дзіўны сон жыцця.
Я прачытаў яго й здзівіўся,
Што так бывае у жыцці —

Я-ж так кахаў вас, але выйсця
Ніяк не мог сабе знайсці.
Я сам не смеў сабе прызнацца...
Але цяпер — навошта лгаць?—
Вы скончылі. Вам восемнаццаць.
Мне скора будзе дваццаць пяць.
Дык што мне да таго, скажэце,
Што вы вучыліся ў мяне?
Вы прада мною ў цэлым свеце
Адна — на яве і ўва сне.
Як буду я кахаць вас, Ганна!
Як я цяпер кахаю вас!

Ганна

Лес шэпча штось...

Андрэй

То шэпт кахання.

Ганна

Які-ж цудоўны гэты час!
З кожным махам цяжкога вясла
Прыбаўлялася ў чоўне лілеяў.
Ганна з кветак сняжыстых віла
Два вянкі — для сябе і Андрэя.
— Ты падобна да гэтых лілей!
Ты — лясная русалка, Ганулял..
Ціха човен уткнуўся у глей.
З трох бакоў закувалі зязюлі.
— Колькі шчасця гадоў дасцё?—
Ганна ў пушчу крычала са смехам...
І адказвала пушча: «Сто!»
Перакатным паўторыстым рэхам.
— Сто гадоў вам шчасліва пражыць!
— Сто гадоў вам з няшчасцем не знацца!
— Сто дзяцей вам на свет нарадзіць!
— Сто разоў па сто раз цалавацца!



Ліст асіны на сонцы трымцеў.
Бор аб нечым тужыў беспрычынна.
... На каханкавай мяккай руцэ
Першы раз задрамала дзяўчына.

За абеды ўжо мабыць было,
Як дахаты вярталася Ганна.
Узышла на сяло — ўсё сяло
Як віхрамі было ўсхвалявана.
— Што здарылася?— ў страсе яна
Запытала на сцежцы малога.
— Цёця Ганна!— пачула,— вайна!
Вунь Кандрат выбівае трывогу...
Ужо на плошчы старэнькі Кандрат
Біў у звон вартавы галасісты.
Людзі беглі з пакінутых хат:
— Дажылі! Вось табе і фашысты!
У клубнай зале — маўклівы натоўп.
Цесна — яблыку недзе-б упасці.
З рэпрадуктара — камені слоў...
— Эх... бадай вас жывымі на часці!..
Невясёлы быў гэты абед.
Маці тварам счарнела ад жалю.
Увайшоў спахмурнелы сусед:
— Зараз, братка, сваіх праваджаю!
І заплакаў: «Цяпер я — адзін!»
Шапкай слёзы старэчыя выцер.

. . . . . . . . . . . . . . .

— Што-ж, збірайся і ты ўжо, мой сын!
Дай-жа божухна ўдачы вам, Зміцер!
Каб і шабля цябе не ўзяла,
Каб і куля цябе абмінула,
Каб дарога цябе давяла
Зноў да бацькавага завулля,

Каб і гонар ты свой не згубіў,
Каб і ворага чорнага біў,
Каб бацькі яго, трасца у бок,
Галасілі ад горшай напасці...
Што-ж, збірайся і ты, мой сынок!
Дай-жа бог вам удачы ды шчасця!

Праваджала салдатаў сяло
На святочнай той сумнай нядзелі
На прысадах натоўпам гуло,
Над сялом самалёты ляцелі.
Пакідалі свой родны куток,
Сваё шчасце, парог свой і ганак.

— Беражы-ж ты сябе, Змітрок!—
Расставалася з братам Ганна.
Расставалася... сумны Андрэй
Ёй на плечы паклаў свае рукі
І глядзеў так — без жальбы і скрухі —
Усім прадоннем гаручых вачэй.
— Вось твой ліст — я яго зберагу.
Зноў з табой мы сустрэнемся, вер мне.
Абяцай-жа пры Змітраку,
Што і ты будзеш гэткай-жа вернай!
Абняла па чарзе абаіх —
Нарачонага мужа і брата.
Прытаіла затоены ўздых,
Памахала хусцінкаю ўзнятай...

## II. У няволі

1

— Чуеш крык? Гэта хто там, браток,
Так тужліва, самотна крычыць?
Чалавек углядаўся у змрок
Франтавой вераснёвай начы.
Арудзійны абстрэл раптам сціх,
І ў змардованы грукатам слых
З цішынёй — ці то з неба, ці з поля
Ліўся крык — крык жалобы і болю.
— Гэта? Гэта крычыць журавель.
Ён шукае рассеяны вырай.
Камандзір загарнуўся ў шынель
І дабавіў з жалобаю шчырай:
— Колькі ў свеце людзей жывых
Гэтак сама шукае сваіх —
Безнадзейна, без веры шукае
У разбітым, разбураным краі!

Усё крычаў невядома адкуль
Невідомы у цемені жораў.
Можа, ён ад спарадаў, ад куль,
Ад разрываў, ад гулу матораў
Журавовай душой пастарэў,
Пасівеў галавою кужэльнай.
...Арудзійны абстрэл адгрымеў,
Ен крычаў над вялікай пустэльняй.
Але час перадышкі прайшоў,
І на гонях знявечаных зноўку
Бурай гукаў, шаленствам агнёў
Узвіхрылася артпадрыхтоўка.
Зноў затрэсліся гмахі зямлі,
На сяле загарэліся хаты,
Узляцелі ракеты. Пайшлі
У начную атаку салдаты.

2

Ганна! Дзе тваё шчасце, любоў?
Што з дзявочымі сталася снамі?

Прашумелі віхры над табой,
Над тваімі садамі й лясамі.
Прашумелі яны над сялом
Дзікай бурай, п'яным ураганам.
Дзе-ж твой бацька? Дзе родны твой дом?
Дзе любімы найпершы твой, Ганна?
Дзе прыгожы твой чэрвеньскі кут,
Салаўямі абспеваны ўночы,
Мары светлыя пра інстытут,
Закаханы твой клопат дзявочы?
Усё грымяць, бесканцова гручаць
Пад нагамі вагонныя колы—
Беларускіх свабодных дзяўчат
З беларускіх вывозяць аколіц.
Пачакай ты, шалёны цягнік,—
Дай зірнуць на забраныя нівы,
Дай паслухаць над полем тужлівым
Жураваў сумны восенскі крык!
Супыніся на міг! Не пылі
Ты пяском прыдарожным і дымам!
Дай яшчэ паглядзець на палі,
На лясы залатыя радзімы!
Але мчыць ачмурэлы цягнік,
Без супыну бяжыць, без сутрыму.
Сцеражэ неадступна іх штык,
Берагуць іх замкі над дзвярыма.
І грымяць, бесканцова гручаць
Пад нагамі вагонныя колы...
Беларускіх свабодных дзяўчат
З беларускіх вывозяць аколіц.

. . . . . . . . . . . . .

Дзень запомніцца той назаўжды—
Раптам іхні вагон адчапілі.



У лазню гуртам зганялі. Тады
Дактары ім ацэнку рабілі.
«Гут» казалі ці грэбліва: «Швах!»
Аглядалі з насмешкаю нейкай.
З папяросаю ў жоўтых зубах
Падышла тупаносая немка.
Рукі Ганне памацала... ў рот
Паглядзела... крутнула навокал.
Як цыган, адышлася на крок,
Паглядзела прышчураным вокам:
«Дзеўка добрая!» — павяла
Да стала. Адлічыла маркі...
Як на рынкавай плошчы вала,
Чалавека купіла вядзьмарка!
Фрау Мільда кіруе сям'ёй.
Муж — на фронце. Сынок — таксама.
Ганс і Петэрхен — покуль што з ёй.
Ёсць аблезлы папахен і мама,
Трое коней і гурт свіней,
У хлявах — не адна карова,
Батракі — хмуры чэх Анджэй
І палячка з-пад Чэнстахова.
Абавязак у Ганны такі —
Быць слухмянай, не красці, вядома,
Працаваць, як і ўсе батракі,—
Як след дома, як след за домам.
Як прыехалі — павяла
Чысціць стайню... Як цёмна стала,—
У той-жа хлеў са свайго стала
Ёй аб'едкі свае паслала.
Так пачаліся тыя дні,
Так нявольніцай стала Ганна...
Як запальваліся агні,
Усе трое сядалі на ганак:

Ганна, поруч — маўклівы чэх.
Працi — Ядзя з-пад Чэнстахова.
То праз слёзы, а то праз смех
Пачыналася ў іх размова.
— Нэ плач, голька!* — казаў Анджэй. —
Ешчэ будзеш на Белай Русі!
Ён сядзеў да Ганны бліжэй,
Пачынаў расказваць аб Гусе...
Аб паўстанні, якое ўзняло
Слова Гусава агнявое,
Як ад Прагі яно прагуло
Па ўсёй Чэхіі громам бою.
Не нявольнікі мы... О, не!
Мы — ад веку-вякоў змаганцы!
Зломяць шыю у гэтай вайне
Рабаўласнікі і паганцы!
Загараўся Анджэй, уставаў
І пад месяцам ночы зорнай
Аж да поўначы ціха спяваў
Песні Чэхіі непакорнай.
Так сядзелі яны да поўночы,
І шаптаў таемна Анджэй,
Зазіраючы ў Ганніны вочы:
— Толькі ў дзвюх просінь гэткіх вачэй —
У цябе ды ў сястры маёй Катры...
Хочаш, голька? — хоць сёння ўцячэм
У высокія нашы Татры!..
Там у хмары глядзяцца лясы,
Там жывуць непакорныя чэхі,
Там ёсць схоў для дзявочай красы,
Там ёсць месца для помсты і ўцехі.
Хочаш, голька? — на гэтых канях

* Голька *(чэшск.)* — дзяўчына.



Гэтай немкі, без жаху, без страху
Мы праскочым маланкаю шлях
Ад Саксоніі ў нашую Прагу?..

Ён нядоўга пражыў з імі. Раз
Паліцаі прыбылі патайна:
— Дзе Анджэй? — фрау Мільда ў адказ
Павяла паліцаяў на стайню.
«Жыве Чэхія!»— там на сцяне
Яркай чырванню словы зіхцелі.
Ні Анджэя, ні пары каней,
Ні батрацкай ягонай пасцелі...
Фрау Мільда — у лямант, у крык.
Ноч шукалі і суткі назаўтра,
Але чэх непакорны знік
На шляхах невядомых да Татраў.
З гэтай ночы жыццё для дзяўчат
Стала горай турмы і расстрэлу —
Фрау Мільда пасля усіх страт
З кожным днём усё болей звярэла.

4

У нядзелю, увечары ў змрок
Фрау з кірхі прыйшла ў чорным крэпе —
Яе большы ўлюбёны сынок
Роўна тыдзень таму ў рускім стэпе
Супакоіўся назаўжды —
«Паў за фюрэра і за айчыну».
Паблажэлая з гэткай бяды
Фрау Мільда зайшла да дзяўчыны.
На пліце закіпаў з малаком
Жалудовы салоджаны кофе.
Фрау Мільда ўвайшла і маўчком
Паглядзела на дзеўчыну скоса.

— Слюшай, Ганна, мой мальшык — капут!..
І вядзьмарцы чамусьці здалося,
Што дзяўчына ўсміхнулася... Тут
Усё страшнае і пачалося.
— Русіш швайн!— Да дзяўчыны штуршком
Мільда скочыла ўмомант па-воўчы
І — з кафейніка малаком,
Кіпнем тым Ганне рынула ў вочы...
— Мама! Мама мая, ратуй! —
Нема крыкнула й змоўкла дзяўчына...
І звалілася ніц на пліту
Сярод куханнага начыння...

5

Дваццаць дзён невыказнай тугі.
Дваццаць дзён і пакутаў і жалю.
Дваццаць дзён...
На дваццаць другі
Ганну выпісалі са шпіталю.
Начапілі на правы рукаў:
Blinde geht nach Ostland, nach Heimat. *
Ноччу выйшла яна з гарадка,
Грунт намацваючы нагамі.
Так стаяла — ўвесь твар у бінтах,
Вецер ціха лавіла рукамі.
Развіднелася, мабыць, бо шлях
Загудзеў, затрызвоніў гудкамі.
Нехта крыкнуў ёй з лаянкай: «Вэг!»**
Шоркнуў шорахам шын лімузіна...
З-пад апушчаных навек павек
Ціха выкацілася слязіна...

* Сляпая ідзе дамоў у Остлянд.
** Прэч!



Павярнула свой твар да відна —
Што-ж так цёмна?.. і раптам згадала...
І тады закрычала яна,
Страшна, голасна закрычала.
Гэткім моцным быў жах і адчай
У прарэзлівым крыку дзяўчыны,
Што на бруку мажны паліцай
Стаў і выйшаў з бліскучай машыны.
— Бліндэ!— Вычытаў на рукаве,—
Blinde Russin! Geh doch nach Heimat! *
І спакойна спіхнуў у кювет
Ён дзяўчыну са шляху нагамі.
І ніхто на ўсім свеце не знаў,
Колькі часу яна праляжала —
У забыцці, непрытомнай, адна,
Скатаваная болем і жалем.
Потым чула — нібыта праз сон —
Хтось абмацаў ёй твар, яе вочы...
Нечый голас, крыштальны, як звон,
Голас жаласны, срэбны, дзявочы
Празвінеў ёй: «Дівчинонько, встань!»
Працягнула навобмацак рукі —
Два якіясь жывыя абрубкі
Абхапілі з бакоў яе стан...
— Бідна дивчина ты моя!
— Хто вы? Бачыце — я сляпая!
— Та не бойся-ж мене, це-ж я!
Ты сліпа, в мене рук немаэ.
Я — Марина з-під Черновіц.
Як і ты, я ў няволі рабіла
На заводзе. Цяпер ім рабіць
Не магу, бо я рукі згубіла.

* Сляпая руская! Ну ідзі сабе дамоў!

Будзем разам цяпер мы шукаць
Край і родныя хаты, дзяўчына,
Дружка дружцы дапамагаць —
Ты рукамі, а я — вачыма.

Абняліся дзяўчаты... Ўдалі
Белы пыл завіхрыўся слупамі.
Так па краі нямецкім пайшлі
Дзве — бязрукая і сляпая.

### III. Павяртанне

1

— Што ты бачыш, Марына, наўкол?
Раскажы, каб я знала хоць трохі...
— Вось пустое сяло. Вунь касцёл
— Вось пустое сяло. Вунь касцёл
Узарваны ля самай дарогі.
Чуеш пошчак пажару й смурод?
Што ні хата — павыбіты вокны.
Недзе знік, пахаваўся народ.
На сяле анікога навокал.
Але не — вунь жанчыну відно!
Каля хаты на прызбу прысела.
Нежывая! І, мабыць, даўно
Так сядзіць, бо ўжо ўся пасінела.
Гэта — немцы. Спалілі й пайшлі,
Як звяры, дзікуны, як татары...
Так па ўсёй, дзе ні пройдзеш, зямлі —
Кроў, нявольніцтва, гвалт і пажары.
Вунь і хлопец вісіць пад вярбой,
Угінаецца стромкае вецце...
Што зрабілі, прыгожы, з табой
Перад тым, як цябе тут павесіць?
Маці ў горкай жаночай журбе
Над табою не пагалосіць,



Ні вадой не абмые цябе,
Ні табе не прычэша валоссе.
Дзе-ж цяпер твае таварышы?
Дзе-ж лясныя твае арляняты?
Дзе на ўспомін геройскай душы
Тройчы грымнулі іх аўтаматы?
«Хіба-ж кінем яго так вісець?» —
Праказала бязрукая Ганне:
«Ушануйма ягоную смерць
Чалавечым святым пахаваннем!»

На пажоўклую ўвосень траву
Партызана сляпая паклала
І вяночкам яму галаву,
Як здалела, змагла, увабрала.
І крынічнаю чыстай вадой
Яна раны усе абмыла
І магілу пад цёмнай вярбой
Аж да вечара вобмацкам рыла.
А як сонца зайшло зусім
За далёкаю пушчаю сіняй,
Села ціха Марына над ім
І па-свойму загаласіла.
А тым часам з пажоўклых кустоў,
Што стаялі ля могілкі блізка,
Неўзаметку да іх падышоў
Чалавечак з дакторскай валізкай.
Уздрыгнуў... На калені ён стаў
Над магілай ля самае Ганны:
— Ясю! Ясю мой! — замармытаў:
Гдзе ты, естэсь, найдрожшы, коханы? —
Вось і скончана ўсё. Каля хат
Безымянная ўзнікла магіла.
Падышлі да старога. Вар'ят
Усё стаяў на каленях пахіла.

— Дiду! Пiдзем же вiдцiля!
Моўчкi ўстаў ён. Вачыма пустымi
Паглядзеў на магiлу. Пасля
Уздыхнуў i паклыбаў за iмi.

2

Гэтак радасць прыйшла да дзяўчат.
На другi дзень пасля пахавання
Доўга спаў незнаёмы вар'ят.
Дзень i ноч аж да новага ранне
Спаў ён моцным зняможаным сном,
Як атручаны, быццам закляты,
Пад старэнькiм дарожным плашчом
У столь наставiўшы твар свой вусаты.
Ранiцою ён раптам устаў.
Паглядзеў на абедзвюх здзiўлёна.
Ясным голасам iх запытаў—
Што за людзi i як iх iмёны?
Цi даўно ў гэтай вёсцы пажар?
Як сюды яны трапiлi самi?
I чаму гэта ў Ганны твар
Перавязаны бiнтамi?..
Моўчкi круцячы вус свой сiвы,
Ён праслухаў гiсторыю Ганны,
Потым зняў бiнты з галавы,
Аглядзеў яе вочы старанна.
— Хто вы будзеце?
— Лекарам я
Працаваў нядаўна ў Варшаве.
Дом згарэў мой, забiта сям'я,
I радзiма мая ў няславе...
. . . . . . . . . . . . . . .



3

Дзевяць дзён потым лекар лячыў
Ганну ў цёмнай суседняй каморы.
На дзесятыя суткi ўначы
Пад асеннiя яркiя зоры
З хаты вывелi, быццам сястру,
Ганну лекар стары i Марына.
Знялi бiнт ёй.
— Цяпер угару
Паглядзi на нябёсы, дзяўчына!
Прад вачыма — сляпая iмгла.
Стала цiха на свеце.
Недзе вобмацкам з краю сяла
Лашчыць вербы тужлiвыя вецер.
Анiкога, нiчога ў цiшы...
Але вось у далёкай прасторы...
— Што ты бачыш, дзяўчына, скажы?
— Бачу... зоры!..

4

Пажадаўшы найлепшых гадоў
Украiнцы Марыне i Ганне,
Дзiўны лекар пабрыў iзноў
У даўгое сваё вандраванне.
Зноў яны засталiся ўдваiх,
Ганна бачыла лепей i лепей.
Жылi ў хаце. Нiбыта ў сваiх,
Бралi бульбу ў заваленым склепе.
Але вось нейк у шафе стала
Мiж старых чарапкоў i мутэрак
Ганна, ўзрадаваўшыся, знайшла
Невялiчкi дзявочы люстэрак.
Нерашуча, сама не свая,

Узяла яго, пыл пазмятала...
— Божа-ж мой! Ды няўжо-ж гэта — я?!.
Закрычала дзяўчына... і ўпала.
. . . . . . . . . . . . . . .
— Ганна, рибонька! Хто-ж це такі
Розтрівожив тебе, моя мила?
— Не пытайся, Марына, пакінь —
Ўсё я, ўсё ў гэтым свеце згубіла!
Як цяпер мне на свеце жыць —
Без Андрэя свайго, без кахання?!.
— Ганна, кветка мая! Не кажы!
Не тужы, моя рибонька, Ганна!
Край увесь паўстае ў барацьбе,
А ты ўмерці надумала, Ганна!
Ёсць-жа рукі і вочы ў цябе,
Ёсць прычына, каб стаць на змаганне!
Дык, каб шчасце вярнуць і любоў,
Каб шчасліва спаткацца з Андрэем,—
Пойдзем помсціць, Ганулл, з табой, —
Як мы здолеем, як умеем!

### IV. Кроў за кроў

1

Ад Сувалак да Мінску й наўкол
Слава гучная йдзе і не гіне
Аб дзяўчатах з няведамых сёл —
Аб разведчыцах Ганне й Марыне.
Беражэ ад няшчасця іх бог,
Непралазныя пушчы й туманы.
Знаюць іх, што заўсёды ўдвох,
Камандзіры, байцы-партызаны.
Плошчы Любліна бачылі іх,



Бургамістры Кялец, Беластоку —
Непатрэбных жабрачак дваіх,
Што пад вечар znікалі ў змроку.
Дзе папросяцца заначаваць,
Дзе заявяцца ў камендатуру —
Прылажыць да паперак пячаць,
Пераждаць непагоду і буру.
Дзе, «сляпуючы», забрыдуць
У мяшканні ваенныя штабаў,
І чалом у Гестапо біюць,
І выходзяць жывымі з Гестапо.
Іхні пропуск — абрубкі тых рук,
Што пакінула ў Кёльне Марына,
Ганнін твар — забінтаваны струп,
Нарукаўнік «сляпое» дзяўчыны.
Ад усякіх папер ласкавей,
Найахранней усякіх там грамат
Гэты надпіс на рукаве:
Blinde geht nach Ostland, nach Heimat.

Дзве жабрачкі. Брыдуць сабе ў свет,
Непатрэбныя, шляхам нікчэмным,
І адзначаны кожны іх след
Громам стрэлаў, крывёй і знішчэннем.
Так ідзе ўсё далей на ўсход
Ганна з белым завязаным тварам,
І адзначан дзявочы паход
Партызанскім агнём і пажарам.

2

Камендант — местачковы сатрап —
Адарваўся ад справы гарачай,
Загадаўшы даставіць двух баб —
Нейкіх двух падазроных жабрачак.

Ён у скрынкі якраз пакаваў
Беларускія яйкі і сала.
Ён і адрас ужо напісаў,
Калі куцы ефрэйтар няўдала
Іх прывёў і паставіў прад ім,
Гучны рапарт аддаўшы старанна.

— Кто ві есть? Что здесь делайт? Зачым?
Ваше імья?
— Марына і Ганна...
Узяў паперы, і ў той самы міг
На пасылцы знаёмы нямецкі
Ганнін адрас яны удвіх
Прачыталі:
«Матыльдзе фон-Гетцке».
Сэрцы скочылі ў іх: гэта ён —
Ганс фон-Гэтцке, муж немкі паганай...
— Ты — з Саксоніі?! О! Вундершён!..
Ты работаль у Мільдхен, мой Ганна?
О, я помню — она мне пісаль!
Ты теперь есть слепой? Ошень жаль!..
Понимай — положенье собачий.
Но я дам документ, чтоб домой
Вас пускаль... Дам прекрасный подарок!..
Ганс фон-Гетцке з дакументам ёй
У рукі ўклаў паўтараста райхс-марак.
Паўтараста райхс-марак — за ўсю
Іх няволю!.. За рукі, за вочы,
За загубленую красу,
За мільёны пакутаў дзявочых!!
Пахіснулася раптам... Пасля
Узяла і з паклонам глыбокім
За Марынай з пакоя пайшла,
Суцішаючы сэрца і крокі.



Толькі ў лесе, ля самых пастоў
Партызанскіх дзяўчына прыстала:
— Помсты, помсты мой час надышоў! —
Задыхаючыся, прашаптала...
— Помсты, помсты маёй час прыйшоў! —
Заклінала яна камандзіра...
І лясныя змаганцы без слоў
За адпомшчанне ўзяліся шчыра.

3

Тры атрады ўначы пайшлі
Да мястэчка праз бор панура.
З трох бакоў яны абляглі
Дом нямецкай камендатуры.

Тры хлапцы з'явіліся ў дом —
Беларускія тры асілкі.
— Ганс фон-Гетцке, досць цешыцца сном!
Забірайце свае пасылкі!
Тры гады балявалі тут
Вы у нашым забраным краі.
Тройчы крыкні цяпер «капут»
І сабе, і ўсёй вашай зграі!
Ганс фон-Гетцке! Прыйшоў ваш час, —
Забірайце рэйхс-маркі ў клунак!
Тры аршыны чакаюць вас —
Беларускай зямлі падарунак!

4

Фрау Мільдзе яе мужык,
Што не піша зусім часамі,
Прысылае, нарэшце, шпік —
Дзве пасылкі з двума лістамі.

Праўда, шпік быў толькі ў лістах,
А ў пасылках ішло не аб гэткім:
У пасылках быў свежы мох,
Гансаў брыль і яго шкарпэткі...
Першы ліст быў ад мужыка,
А другі, не чапаючы сала,
Па-сяброўску чыясьці рука
Незнаёмая напісала.

Першы ліст

Лібэ Мільда! Ў прадсмертны час
Я пішу табе гэтыя словы.
Абдымаю, цалую вас.
Будзьце шчаслівы і здаровы.
Я бясслаўны канец сустрэў —
Гэткі лёс накanован мне, мусіць, —
Я асуджаны на расстрэл
Партызанамі Беларусі.
Я пішу ў поце ліпкім увесь,
Бор і смерць у мяне за плячыма,
І з вінтоўкаю наперавес
Прада мною стаіць дзяўчына.
Яна мела прыгожы твар,
А цяпер ён — суцэльная рана.
Яна кажа, што — гэта дар
Фраў Гетцке Матыльды-Анны.
І, як ліст я закончу свой,
Яна гэты твой дар аплоціць,
І мой труп будзе ўніз галавой
Ў прорву кінуты на балоце.
Я ў тым пэўны — калі-б не яна,
Я не меў-бы калізіі гэткай.
... Я ўжо чую, як пахне труна.
Абнімаю ўсіх.
Ганс фон-Гетцке.



Другі ліст

Фраў Мільда! Рыхтуйце свой крэп,
Стрэньце вестку дастойна і мужна...
Сына вашага ўзяў рускі стэп.
Беларуская пушча — мужа.
За прыход у наш край з мячом,
За злачынствы свае і вашы —
Ён прадстаў перад нашым судом
І трымаўся на ім няважна.

Фраў Мільда! Ягоным суддзёй
Была дзеўчына з гнеўным тварам —
Тая самая Ганна, якой
Вы лінулі у вочы варам.
Вельмі кораткі прыгавор
Не занесены ў фаліянты,
Яго сцвердзіў шумлівы бор:
«Смерць забойцу і акупанту!»
Фраў Мільда! Яшчэ удар
І для вашага сэрца драма —
Яна плюнула Гансу ў твар,
Потым стрэліла — ў твар таксама.
І сказала, што прыйдзе час
(І мы ўпэўнены ў гэтым самі),
Калі знойдзе яна і вас
І разлічыцца гэтак-жа з вамі.

Фраў Мільда! Мы ўсе ад душы
Жджэм на час гэты шматчаканы.
Да сустрэчы!
Таварышы,
Партызаны, прыяцелі Ганны.

5

У нядзелю гуляла сяло.
Пяць гармонікаў з бубнам грымелі.
На'т жанатых усіх павяло
У польку дзеля такое нядзелі.
З бронетанкавай часці байцы —
Усе ордэны ды медалі —
Маладыя усе хлапцы —
Усіх дзевак паразбіралі.
Глянь — пад кожным бадай што акном
Пары, пары сядзяць, задзівіцца!
Што зрабілася са старшынём? —
Ён-жа, чутна, паспеў ажаніцца.
Скача польку, разбі яго бог,
З сакратаршаю сельсовета —
Партызанілі разам удвох,
Пажаніліся ў гэтае лета.
Тры гады пад нямецкім ярмом
Пратрывалі хлапцы і дзяўчаты.
Што ні хата ў сяле, што ні дом —
Незагойныя раны і страты.
І грымяць ад зары да зары
На сяле малаткі і сякеры.
Гэты хату нанова пакрыў,
Той навешвае новыя дзверы.
Хай набракла зямля цераз край
І сваёй і варожай крывёю —
Будзе добры налета ўраджай,
Будзе луг багацейшы травою.
Вунь яны — у карчэўі ляжаць —
Ненаеднікі, уладарцы,
Што збіраліся тут панаваць
На заваёванай гаспадарцы...



Разяўлялі шырокі свой рот,
Выхваляліся не па-людску,
Атайбоўвалі швабскі род
Каля Рослава, каля Слуцку.
Абвясцілі ўжо: Рус — капут!
Распладзілі майстроў заплечных.
Меркавалі свой Остланд тут
Планаваць ужо навек-вечны.
Вунь яны, у карчэўі ляжаць
З беларускай зямлёю ў глотках.
Ніцма леглі адпачываць
Пасля мараў, пасля салодкіх.
А мы жывы і будзем жыць!
А мы раны свае пазагоім!
А мы білі і будзем біць
Іх па карку няшчадным боем.
А да нас наша свята прыйшло,
Як вясна па марозе й мяцелі...
У нядзелю гуляла сяло.
Пяць гармонікаў з бубнам грымелі.
З бронетанкавага палка
Ухажоры і запявалы
Адчыбучвалі трапака,
Гарманістам «жыцця давалі»...
І круцілася паміж іх
У танцы полымна ураганным
З смехам шчасця ў вачах жывых
Нечаканая госця — Ганна.
Роўна тыдзень таму назад
Развіталася Ганна з Марынай.
Яе клікаў у Сумы брат,
Яе вабіла Украіна...
— Дзе-ж ты, доня мая, была?
Дзе бадзялася, небарака?..

Слухаў бацька аповесць... пасля
Не стрымаўся стары — заплакаў.
— Тат... не плач — хіба-ж я адна!
Я цяпер — не былая Ганка.
Я спагнала свой доўг спаўна,
Я зрабілася партызанкай.
Толькі дзён маладых мне шкада,
Толькі шкода майго кахання...
Усё сплыло, як вясною вада.
Скача зноў пад гармонік Ганна.
Як далёка усё адышло —
Яе школьніцтва і юнацтва!..
І здаецца не тым сяло,
Дзе прайшлі яе восемнаццаць...
Скача Ганна. Гараць, нібы жар,
Яе шчокі, і тужаць вочы...
І здаецца прыгожым твар —
Пакалечаны твар дзявочы.
А суседкі наўкол свой прысуд
Ёй выносяць уголас з места:
— Загубілі дзяўчыне красу,
Але ўсё-ж — хоць каму нявеста!
Скача Ганна у крузе сваіх,
І смяюцца, і тужаць вочы —
Па Андрэю, па днях былых,
Па былым харастве дзявочым.
Божа, як-жа было то даўно! —
Светлы чэрвень і сад з язмінам,
І расчыненае акно
З свістам, шчоўканнем салаўіным,
І ля месячнага акна,
Уся ва ўладзе чароўнай ночы,
З алаўком у руцэ — яна
За кахальным лістом дзявочым...



## ЗАМЕСТ ЭПІЛОГА

### Ліст Андрэя

Ганулял Ліст твой атрымаў —
Ліст, поўны роспачы і жалю,
Ён з пятым месяцам супаў
Майго ляжання у шпіталю.
Ты жыва! Божа мой, жыццё
Ты маеш — што нам болей трэба?
Ты маеш сэрца, пачуццё.
Ты можаш бачыць сонца й неба!..

Я сам — не той ужо Андрэй,
Якім я быў да часу бою.
Я не магу ўжо, як раней,
Цябе абняць сваёй рукою.

Але-ж жыву я, і жывуць
У краі тысячы й мільёны,
І ворага сябры жануць,
Як псоў збрадлівых, за кардоны.
Да стрэчы, Ганна! Беражы
Вянок з азёрнае лілеі.
Бывай! Жыві і верна жджы
Твайго ранейшага Андрэя!

*1943 г.*

# Э Д Э М

## (Паэма)

*Эдэм... выраз такі у кніжках ёсць.*
*Ён значыць—край, дзе добра*
*ўсім жывецца.*

### 1

*Хай спіць ля бацькава парога госць, —*
*Хто спіць, гавораць людзі, той не шкодзіць.*

Стажары гаслі. Разам з імі ноч
Канала скрозь — памалу, ледзь прыкметна.
Счарнеў усход, і раптам, быццам нож,
Бліснула стужка чырвані рассветнай.
З-за бору промень, гостры, як лязо,
Ударыў неба і ўтануў у ране.
І з неба кроў — над рэчкай, над лазой —
Лінула ўніз...
Так пачалося ранне.

Тады на плёс з ружовае лазы
Хтось пудка выйшаў. Аглядзеўшы бераг,
Напіўся ў рэчцы. Выцер валасы.
Зірнуў на чоўнаў нерухомы шэраг
І стаў на плёсе — нібы адлягло
Ад сэрца нешта-нейкае цяжкое...
На тым баку віднелася сяло,
Збягаючы з пагорка над ракою.
— Мой край,— прамовіў ён,— мая рака!



Маё сяло! Здалеў-такі дапасці!
О, божа мой, ці не твая рука
Вяла мяне ў згібенні і ў няшчасці?
Так ён шаптаў гарачкава, і чах
Ягоны шэпт у трасніковым шуме.
Адумаўся... Памацаў на плячах
І пот, і соль салдацкае кашулі.
Хацеў памыць яе, але яна
Разлезлася ў руках яго шматкамі.
— Вось і яе паела ўсю вайна,—
Сказаў ён і шпурнуў яе на камень.
І зноў у гушчырню лазы залез,
Прылёг на кінуты дзіравы нерат.
У абеды меўся быць ён на сяле,
Разведаўшы, аднак, усё наперад.
Салдацкая прывычка назаўжды,
Як трасца, моцна ўелася у косці.
— Пазіцыя, — ўсміхнуўся, — хоць куды!
Разведаем — ці ёсць у хаце госці.
Ён абламаў лазовае галлё
І ўпіўся п'яўкаю — сваім паглядам —
На схіл гары, на ціхае сяло,
На бацькаў дом з сядзібаю і садам.

Дом быў на ўзгорку, проста над ракой.
Ён высіўся драўляным светлым гмахам
З прыгожай абшалёванай сцяной,
З высокім жоўтым бурштыновым дахам.
Здаецца — бацька выйдзе, а за ім
І маці з'явіцца на светлым ганку,
І бацькаў бас пракоціцца: «Юхі-і-ім!
Дзе-ж ты прапаў, нячысты дух, ад ранку?..»
Ён бураю прамчыцца па сяле.
І ў момант з бацькам за сталом ачнецца.

Даўно бліны з мачаннем на стале,
Яечня матчынай рукой пражэцца.
О, божа мой! Калі то ўсё было?—
У дваццаць восьмым? Значыцца,— трынаццаць
Таму назад...
Хутчэй-бы як дазнацца,
Ці немцы ё ў сяле! Але сяло
Пустым здаецца, і падступны сон
Павекі склейвае і б'е ў калені,—
Занадта многа цяжкіх страшных дзён
Прайшло ў хадзе, ва ўцёку, ў адступленні...

Усё адступае полк іх. Божа мой!—
Яны яшчэ пяюць аб перамозе!
Хачу я міру! Я хачу дамоў!
Я ваяваць не згодзен і не ў мозе!
Дамоў, браткі!— каму куды бліжэй!
Мне недалёчка: вёрст пад паўтараста...
Хто гэта стрэліў?— Божа мой,— Андрэй!
Андрэй Саковіч — муж сястрыцы Насты!..
Дармо, Андрэй!— я ўцёк! Вось я — жыву!
А стрэл твой родным цяжка адрыгнецца.
Ідзі сабе, шукай сабе Маскву,
Калі цябе ўжо не забілі немцы!
Ён спаў. Абуджваўся. І мармытаў.
І лезлі ў рот зялёнай плоймай мухі.
Ён спаў. І ў сне зубамі скрыгатаў,
І богу скардзіўся на злыбеды і мукі.
І ўсё адзін той самы сон страшны
Яго душыў і за жывое кратаў —
Вайна... ўсе здані-прывіды вайны
І сковыт мін, і строкат аўтаматаў.
Даволі чорных сноў ягоных, досць!



Як ён казаў, — канец вайне, і годзе!
Хай спіць ля бацькава парога госць,—
Хто спіць, гавораць людзі, той не шкодзіць.
У абед прачнуўся ён. Бярозы ў-дзве
Ужо стаяла ў сінім небе сонца.
Яно блішчэла ў росах, на траве,
На родным даху, — на ягоным гонце.
Ён дыхаў лёгка свежасцю рачной,
Піў цеплыню і піў хваёвы вецер.
І вечны мір, і вечны супакой
Стаяў над ім, на ўсім, здаецца, свеце.
З ружовай кветкі сонечны матыль
Зляцеў і сеў на брудную пілотку.
Канец вайне! Вось ён — глыбокі тыл!
Як ціха тут! Як марыцца салодка!
І ўсё, што ён дагэтуль перажыў,
Здавалася далёкім, немагчымым...
Канец вайне! Другія рубяжы
Цяпер стаяць прад ім, перад Юхімам!
Ён выцягся. Падняўся на лакцях.
Хацеў напіцца, — перасохла ў роце...
І раптам, як гарохам, — шах-ша-рах!—
Са свістам сцёбнуў нехта па чароце.
Ого! Дык, значыць, ёсць яшчэ вайна!
Ён да зямлі прыпаў з салдацкім матам.
І ў той-жа міг па голасе пазнаў
Знаёмы трэск нямецкіх аўтаматаў.
Яны ішлі купацца на раку
Усім узводам і «для супакою»
Страчылі чэргамі па лазняку,
Прачэсваючы бераг за ракою.
Паперадзе, як грозны бог вайны,
Граза занятых гарадоў і сёлаў —
Ішоў высокі афіцэр п'яны

І гергатаў з салдатамі вясёла.
Ля рэчкі ўзняўся развясёлы гвалт,
Адбіты рэхам на чужыннай мове...
І раптам — афіцэр ускрыкнуў: «Хальт!..»
І з аўтаматам стаў напагатове:
На тым баку, паміж лазы й трысця,
З густых кустоў вылазячы паволі,
Ішоў Дзікун, абдзёрты і поўголы,
Трымаючы з анучкі белы сцяг.
Ён нёс той сцяг, як свой ратунак нёс,
Высока ўзняты, шчыра, без падману,
І йшоў нясмела цераз жоўты плёс —
Лясны Дзікун з Майн-Рыдава раману!
І «шыссэн ныхт» праз рэчку ім крычаў,
І, перайшоўшы, смешна стаў жагнацца...
Узвод глядзеў-глядзеў, тады пачаў
Адразу крыўдна-весела смяяцца...

. . . . . . . . . . . . . . . .

## ПРАТАКОЛ ДОПЫТУ

**Нацыянальнасць ваша?**— Беларус.
**Імя і прозвішча?**— Юхім Кашлаты.
**Падданіцтва?**— Савецкі быў Саюз.
**Год нараджэння?**— Дзевяцьсот дзесяты.
**Партыйнасць (у мінулым і цяпер)?**
— У партыі не быў, бо не па сіле...
Вядома, я ў свой час быў піонер.
У комсамол прасіўся — не пусцілі.
**Кароткі і дакладны жыццяпіс?**
— У часе раскулачання да блізкіх
Уцёк з фальшывай спраўкаю ў Тыфліс.
У культпромсаюзе майстраваў валізкі,



Служыў у хлебнай краме прадаўцом,
Закончыў морскі тэхнікум у Поці,
Ды мора пабаяўся. Бацькаў дом
Забыў у вандраваннях ды рабоце.
Хлусіць не буду: я нядрэнна жыў.
Пазней пра бацьку болей не пыталі.
За грошы працаваў ім і служыў
І не пытаўся, што там будзе далей.
І вось — вайна. Здалося, што Зямля
Стыкнулася з арбітаю каметы,
Як у рамане. Шмат хто, як і я,
Ужо навекі пахаваў Саветы.
Галодны і разуты, ледзь жывы,
Бадай штодзень страчаючы пагібель,
Я чуў шум збожжа і густой травы —
Не на калгаснай, на сваёй сядзібе.
Маё дабро, мой дом уласны — там...
Па ім тужыў, як хворы па здароўі...
І я прасіў, казаў таварышам
Кідаць усё, не браць у рукі зброі.
Яны мяне хацелі расстраляць.
Я ўцёк. А швагер — комуніст вясковы —
Паспеў пакласці куляю пячаць
Сваёй нянавісці. Яго імя — Саковіч.
Я йшоў праз гушчы пушчаў і лясоў,
У твань балотаў з купінаў слізгаўся.
Я йшоў дамоў — у гэты край ішоў,
Дзе ўжо няма Саветаў і калгасаў.
І я прыйшоў, і вас прашу аддаць
Мой дом, зямлю, увесь набытак таты.
І мне тут больш няма чаго казаць,
У чым я стаўлю подпіс свой —

**Кашлаты.**

2

*Там на траве аббітая раса*
*Вяла за рэчку сцежку партызана.*

На той-жа бераг і да тых-жа хат,
Ад сонца чорны, з кайстрай за плячыма,
У той-жа дзень яшчэ адзін салдат
Прыйшоў да рэчкі... Тут яго радзіма.
Прыйшоў і паў на жоўты сыпкі плёс,
У хмызняку шукаючы ратунку,
І так ляжаў, аж покуль сінь нябёс
У чорны шоўк абвалаклі сутункі.
Ён не стагнаў у сне, не мармытаў.
Яго не мучылі цяжкія дрвіны.
Ён проста спаў — салодка, моцна спаў,
Як спяць пры маці хлапчанём нявінным.
Над ім лазовы тонкі ліст трымцеў.
Яму нічога больш было не трэба.
І калі-б ён цяпер што і хацеў,
Дык гэта лусту матчынага хлеба.
Ды жонкі косы ўзяць, расцалаваць
У вусны, ў вочы — голасна і звонка.
Яна-ж умела так яго кахаць,
Як гэта ў свеце ўмее толькі жонка.
Не здолеў ён прабіцца да Масквы
З байцамі — камандзір Андрэй Саковіч.
Застаўся ў тыле — дзейны і жывы
Юхімаў швагер і аднавясковец.
Ён выйшаў з абкружэння і павёў
Сваіх сяброў, хаця было іх мала,

У сваю акругу, да сваіх дубоў,
Дзе з Настаю збіраў грыбы, бывала.
Шумеў штодзённа беларускі лес.



Над галавой — блакітным дахам неба.
Нічога, выдужым, таварыш С.,
Дармо, што солі нестае ці хлеба!
Галодныя, у дальні цяжкі рэйд
Ішлі праз снег за конскімі хвастамі...
Ану, трымайся, камандзір Андрэй!
Няўжо жывых нас пахавае замець!
Няхай нас мала,— што за страхаццё!
Няхай бядуем, — наша шчасце прыйдзе!
Хапіла-б іншаму на ўсё жыццё
Таго, што часам бачыў ён за тыдзень.
Ён не загінуў і не да Масквы
Пайшоў праз фронт, і не да роднай хаты,—
Ён быў на варце, дзейны і жывы,
Як справа помсты, як агонь расплаты.
Пад вечар ён прачнуўся. Сіні змрок
Гусцеў над рэчкай, бераг завалок.
Брод перайшоў. Вось цёмны, ціхі млын
Паўстаў прад ім. А далей — сад і круча.
Тут кожны кут — прыгожы успамін,
Што мкнецца ў сэрца саладка й балюча.
Здаецца, шэпча млын яму: «Прысядзь!
Даўно-ж не быў»... Але ён крочыць міма.
На кручу ўсходзіць. Ціха йдзе праз сад...
А вось і дом — калішні дом Юхіма.

Агнёў няма, але адно акно
Адчынена. І ў тым акне — жанчына.
— Настуля!.. — ўслухаўся... маўчыць. Ізноў:
— Настуленька, — сказаў, — мая шыпшына!..

Калі яе стары бацькоўскі кут,
Што ўвесь чужою працаю аплачан,
Быў у трыццатым годзе раскулачан,
Яна пакінула свой інстытут.

Прыехала. Але ўжо не было
Ні бацькі, ні багацця, ні Юхіма,
І стрэла Насту воража сяло,
Яе ваколіца, яе радзіма.
Ніколі аж да смерці не забыць
Той цяжкі, невымоўна горкі вечар.
Яна адна на ўслончыку сядзіць —
Без друга, без прыязні чалавечай.
І раптам клямка — бразь! Гучыць хада
Знаёмая ў спусцелай гулкай хаце...
Прысеў. Абняў. — «Ану, скажы: шкада
Бацькоў ды іх кулацкага багацця?»
Яна пазнала ў цемры — гэта ён,
Андрэй Саковіч — друг дзіцячых дзён.
Бацькоў шкада. Багаццяў іхніх — не.
Задумаўся. У твар зірнуў дзяўчыне.
— Шкада? Што зробіш! Тут — як на вайне..
А ты не плач, твой бацька не загіне.
Падумай лепей — як зажыць далей,
Каб чэсна, па-совецку, для народа!
Станоўся за настаўніцу ў сяле —
Жыві, працуй, і ўся табе нагода!
Адрозніць вельмі лёгка ад жывых
Таго, каго жыццё жадае смерці,—
Прыгледзься толькі ўважліва: ад іх
Шыбае пахам цвіласці і смерці.
Яна-ж была жывою і жыццём
Гарэла ўся, жыццём работы й шчасця,
Па-новаму зажыў Кашлатых дом,
Дзе адружыліся Андрэй і Насця.
На многа вёрст былі відаць з гары
Адсюль палі жытоў і канюшыны
І на раллі калгаснай трактары,
І ў лесе векавых дубоў вяршыні.



Калі світанне за вяршыні дрэў
З гары свой першы промень ураніла,
Далёка ў лесе быў ужо Андрэй.
Яна-ж ляжала і наяве сніла
Аб шчасці стрэчы і што ён жывы,
І будзе жыць, і прысылацьме часта
Патайна весткі з пушчаў баравых —
Прытулішча сяброў яго і Насты.
У гэты час з-за паліцэйскіх крат
Прыйшоў у дом бацькоўскі родны брат.
Ён увайшоў і на парозе стаў...
Зірнуў на Насту шчаснымі вачыма.
З парога крыкнуў:
— Добры дзень, сястра!..
Ты што?— не пазнаеш мяне — Юхіма?!.

Наста

Не,— пазнаю. Адкуль ты?

Юхім

Я?— Ад іх...

Наста

Ад немцаў?.. І яны цябе пусцілі?

Юхім

Але, пусцілі! Зараз удваіх
Жыць будзем, як калісьці, помніш, жылі.
Усё, усё ў нас будзе, як раней,
Усё маім цяпер ізноўку стане —
І дом, і млын, і конь з калгаснай стайні,
І поля, колькі захачу, ганей.
Ізноў зраблюся я гаспадаром —
Яшчэ мацнейшым, як нябожчык тата!
Як ляльку, я ўпрыгожу гэты дом.
Мы зажывем з табою так багата,
Як і ўявіць не можаш ты, сястра!

Яны мне ўсё на свеце абяцалі:
Убіць у гэты грунт надзейна палі,
Ізноў зрабіць з мяне гаспадара.
Мы ў гэтым доме шчасна зажывем —
Ты, я ды трэцяя — мая нявеста.
Тут будзе, як гэта завуць? — Эдэм,
Што значыць — кут, дзе добра ўсім жывецца.

Наста

Усім?

Юхім

Сястра! Якая справа нам
Да ўсіх, калі я собскі клопат маю
У собскім доме? Хай сабе вайна
Ідзе без нас, а я ўжо не жадаю.
Я жыць хачу і абрабляць зямлю —
Уласную, сваю— як можна болей!
Ты ведаеш, як я яе люблю —
Сваю зямлю, сваё навекі поле!

Наста

Табе калгасным быць-бы старшынёй!

Юхім

Жартуеш? Іх цяпер, ні божа мой,
Не знойдзеш днём з агнём, ды і не трэба!

Наста

А што ты думаеш рабіць з сялом?

Юхім

Я гаспадар тут. Тут мой родны дом.
Яны мне будуць за кавалак хлеба
Служыць усе. Цяпер мая пара.

Наста

Надоўга?

Юхім

Кінь!!. Я — стараста, сястра!



3.

«Я — стараста, сястра!..»

Чаго жадаць яшчэ? Чаго хацець?
Ёсць хлеба досыць. Ёсцека й да хлеба.
Паўнютка збожжам у сусеках клець.
Бугай з каровамі гудзе у хлеве.
Бацькоўскі скарб — былы калгасны млын
Ізноў ажыў і круглы дзень працуе:
Для арміі, для фірмы «Штраўх і сын»
Пшаніцу меле, рушыць і вальцуе.
Адгэтуль праз ляшчэўнік, быццам змей,
Віецца сцежка петлямі па ўзгорку,
І з кожным крокам там чуваць слабей
Старога млына шумную гаворку.
А вось і дом — ягоны верны схоў,
Агледжаны, пачышчаны, прыбраны,—
Нарэшце гэты родны кут знайшоў
Сваіх старых гаспадароў старанных!
Высокі ганак на раку і млын
Глядзіць дзвярыма, ўзятымі ў жалеззе.
З яго відаць пад ярыцаю клін,
Зарэчны луг і цёмнае прылессе.
Налева — пусташ. Лесам гавыла
Расце на ёй, — закінутае поле...
Але таксама добрая зямля,
Калі ўзараць, калі ўгнаіць паболей.
Вось і сядзіба! Можна размахнуць
Такі маёнтак — аж умлеў-бы тата.
Зямлі яму, рэч ведама, дадуць,
Але-ж ці гэту і ці так багата?
Служыць германцам — толькі й ёсць адзін
Надзейны шлях,— хто ў свеце іх адужыць?
Але-ж ён служыць ім як сукін сын,

Другі ўжо год па чэсці й праўдзе служыць!
Забыў на ўсё, што добрага было
Між ім і гэтымі людзьмі,— наўпроці,
У ляшчоткі ўзяў радзімае сяло,
Але пастаўкі ўсе найпершы плоціць.
Начальства хваліць,— вельмі-ж рупны ён,
Спаўняе доўг, выконвае заданні.
А што важней за ўсё: яго раён
Мінаюць, дзякуй богу, партызаны.
Выходзіць так, што справа пойдзе ў ход,
Што можна жыць, як нельга лепш, з нямцамі...
Вось толькі Наста кажа, што народ
Прадаў Юхім... ды што кабета цяміць!
Цікава, дзе цяпер яе Андрэй?
Загінуў?— што-ж, туды яму й дарога!
А ён — даклыпаў да сваіх дзвярэй,
А ён — дапяў бацькоўскага парога!
Дурніца-Наста!— праклінае дом,
Вяшчуе брату блізкую пагібель,
Вяшчуе, што не быць гаспадаром
Яму на гэтай бацькавай сядзібе,
Што ён прадаў айчыну на вайне,
А дома немцам прадае народ свой,
Што прыйдзе час — радзіма спамяне
Яму і дэзерцірства, і старостватва...
Няхай гаворыць! — свой заветны план
Ён споўніць, і другою Наста стане...

Тым часам жыў Юхім сярод сяльчан,
Як Рабінзон на выспе ў акіяне.
Людзей было багата — й не было
Людзей навокал старасты Юхіма...
Як быццам анямела ўсё сяло,



Увесь раён, уся яго радзіма,
Як быццам анямеў увесь народ,
І першымі — яго аднасяльчане:
Маўчком усе збіраюцца на сход,
Са сходу разыходзяцца ў маўчанні.
Спачатку ён смяяўся. Потым стаў
Задумвацца... Уласную натуру —
Зламаўшы, нейк пры стрэчы запытаў
Калючага як вожыка Дзяндзюру:
— Як жыва, як здарова, ваша мосць?
Ты што — не пазнаеш сваіх вясковых?
— Як не пазнаць! — сказаў стары, — ты ёсць
Наш староста...
І болей ані слова.
Дзявочы круг, страчаючыся з ім,
Змаўкаў раптоўна ў непрыязным страсе...
І нават Ксеню староста Юхім —
Былую дружбу, Ксеню сваю — страціў.
Яна сказала проста, калі ўдвох
Яны сышліся ў млыне твар да твару:
— Не руш мяне, Юхім! Бо, далі-бог,
Што-б потым ні было са мной — удару!
Ну і няхай! — як-небудзь пражывем!
Не вельмі ў вас вялікая патрэба!
Я буду мець маёнтак — свой эдэм,
А вы — з вас кожны па кавалак хлеба
З паклонам скора прыйдзе да мяне,—
Тады усё вам гэта спамянецца!
От толькі-б пахутчэй канец вайне
Ды з месцаў гэтых выбраліся немцы!..
Ён будзе мець яго ў свой час і дзень,
Ён дойдзе, ён жаданага даб'ецца —
Маёнтка з гучнай назваю «Эдэм»,
Што значыць — край, дзе хораша жывецца!

Франц Блюм — тутэйшы ландвіртс-афіцэр —
У гэтым краі госць зусім нядаўні.
Рахункавод калішні, ён цяпер
Глядзіць на гэты люд, як на падданых.
Здзяйсняючы берлінскі просты план,
Ён аднавіў стары закон прыгону:
Нічога — для калгаснікаў-сялян,
Усё — нямецкаму салдату і барону.
Каб па званку — пад цяжкай рэйкі грук —
Калгаснік на нямецкай гаспадарцы
Да цёмнага спіну згінаў у крук
Для новага нямецкага ўладарцы.
Адкуль набралася гаспадароў —
Паны, шпіёны, ландвіртс-афіцэры...
Улічылі колькасць быдла і двароў,
У хатах — вокны, коміны і дзверы,
Якую рыбу льга ў рацэ лавіць,
Якой ні ў нерат, ні на крук не можна,
Як працаваць, як па сяле хадзіць,
Як шанаваць нямецкую вяльможнасць...
Агледзеўшы як след тутэйшы край,
Аддаў пашану Блюм яго багаццю
І так пісаў пра «беларускі рай»
У Свінемюндзе швагеру і зяцю:
«Майн лібер швагер, лібер швігерзон!
Я — ў невымоўным шчасці й захапленні.
Шлю з Вайсрутэніі свой нізкі ўклон,
Дакладваю пра ўдачы й дасягненні.
Перш-на-перш, гэты край, дзе мы жывем,
Зусім адпавядае нашым планам.
О, дас іст віркліх парадыз, Эдэм!
Яго-б даўно заваяваць пара нам!
Сядзіба ў эннай колькасці гектар
Ужо гатова, каб пад нашым плугам



Нам аддаваць штогодна плённы дар,
Прыстойны нашай славе і заслугам.
Яна прыхватвае шматок сяла
З вялікім садам і прыгожым домам.
(Гаспадара — тутэйшага асла —
У пэўны час мы выпіхнем, вядома!)
Для нас, мейн лібер швагер, — добры млын,
З усіх бакоў адменны, цалкам спраўны.
(Ягоны ўласнік — той-жа сукін сын,
Мясцовы здраднік, майстра гэтай справы.
Такому мы, рэч ведама, цамо
Шматок зямлі ў якой другой акрузе,—
Ён дапамог нам налажыць ярмо
На гэтых сальнікаў так званай Беларусі.)
Дык вось, збірайцеся! Тым часам я
На ваш прыезд усё тут падрыхтую —
І млын, і дом, дзе Блюмава сям'я
Пачне жыццё. Бывайце! Усіх цалую!»

Уночы ціха бразнула акно...
Зляцела з ложка цёплая падушка,
Як лебедзь, на халоднае радно.
І сэрца раптам збуджанаю птушкай
Забілася... За сценкай спіць Юхім,
Даўно чакала Наста гэтай ночы,
Праз шыбіну свідруюць цемру вочы:
Два дзецюкі пад ясенем старым,—
На фоне дрэў відаць іх цені смутна.
Юхім храпе... Ступаючы нячутна,
Яна ідзе пужліва да дзвярэй.
І толькі з ганку сступіць паспела,
А ўжо за рукі ўзяў яе Андрэй,

А ўжо цалуе вусны, твар збялелы,
І п'е цалункі, а на вуснах — соль,
І горне Насту, а на сэрцы — боль,
І штось гаворыць, а яна не чуе,
І сэрца радасць і бяду вяшчуе.

. . . . . . . . .

— Ну, хопіць, Наста!.. Як жывеш?
— Андрэй!!.
Вазьмі мяне! З палону сэрца рвецца!
— Вазьму, Настуленька! Вазьму — пазней.
Вазьму, калі не забаішся смерці,—
Яна над намі дзень і ноч стаіць.
Дзе брат Юхім?
— У тым пакоі. Спіць.
Вазьмі мяне з сабой. Мне цяжка тут.
— Вазьму — пазней. А покуль — тут пабудзеш.
Глядзі за ўсім. У твой спакойны кут
Прыходзіць будуць з лесу нашы людзі.
Прымай іх добра. Колькі сіл стае,
Рабі усё, што скажуць, для атрада.
Сачы за ўсім, што будзе на сяле,
Ды не забудзь — асцерагайся брата...
— А ён? Што потым будзе з ім, скажы?
А можа, мы Юхіма перайначым?!.
— Не. Ён закончаны. Ён будзе жыў,
Пакуль жывеш з ім ты, а там пабачым.
Даўно стажары згаслі. Пасвятлеў
Усходні край, заранкам абагрэты.
У ціхім садзе між задумных дрэў
Усюды забяleліся прасветы.
— Бывай, Настуля! Мне даўно пара.
На зорцы спіць салодка немчура.



Бывай, Настуля, родная, бывай!
Андрэй устаў... І раптам па-над садам
Ударыў стрэл, і з воклічам: «Спяшай!..»
Пабег таварыш з верным аўтаматам.
— Бяжы. Відаць, нас высачыў той гад.
Бяжы, а я іх затрымаю крыху...
— Не варта,— позна...
Прадсвітальны сад
Ажыў раптоўна ў тупаце і крыку...
Ішлі на іх з усіх бакоў, наслых
Страляючы не ў лад бесперастанку.
— Што-ж,— смерць, дык смерць!
І ўсе яны ўтраіх
У дом Юхімаў падаліся. З ганку

Тры стрэлы немцаў стрэлі, і траім
Ахвяравалі па гарачай кулі...
Эсэсаўцы паўзлі. Іх вёў Юхім —
Раз'ятраны, ў расхрыстанай кашулі.
Зноў залп. Граната ўдарыла... на час
Спыніўся непрыкметны ціхі наступ,
І чуўся з цемені Юхімаў бас:
— Пан афіцэр! не рушце толькі Насту!
Эсэсаўцы залеглі... З трох бакоў
Па вокнах білі, па сцяне, па ганку
З-за цёмных дрэў, з-за тоўстых вуллякоў,
З-за чорных пнёў... І так ішло да ранку.
Ужо ўвесь сад абпырскала зара,
І сад курыўся дымам і туманам.
На стрэлы не адказваў дом.
— Пара!..—
Прамовіў нехта голасам драўляным.
Тады салдат праз вузкае акно

Улез адзін... Другі раструшчыў дзверы
І Насту з дому вынес на відно
І падвалок яе да афіцэра.
— Жывая... толькі ўся сплыла крывёй.
— Жывая!... Настачка!..— рвануў Юхім кашулю,
Рыдаючы, схіліўся над сястрой,
Нібы вар'ят, загаласіў:— Настуля!..
Але яе ўжо неслі... Зверам — звер
Юхім ускочыў:
— Стой! Не руш, псяюха!
Пакінь яе!
І бледны афіцэр
З размаху ўдарыў старасту у вуха...
Тады ў свой дом убег ён: «Дзе-ж Андрэй?
Дзе гэты злодзей?» — і застыў ад дзіва:
Андрэя не было, каля дзвярэй
Ляжаў адзін Дзяндзюра нерухліва...
Сціскаў рукою чорны аўтамат
І так ляжаў — калючы і пахмуры,
І гэткі страшны быў яго пагляд —
Прадсмертны позірк конюха Дзяндзюры,
Што куляй вылецеў у сад Юхім,
Абы ўцячы ад гэтага пагляду,
І паімчаў... і беглі ўслед за ім
З усіх куткоў яго страшнога саду
Салдаты-немцы, сочачы ў траве
Слядоў расяных блытаны кірунак...
— Дык ён уцёк? Дык, значыць, ён жыве!
А мне, а мне ці будзе паратунак?!.
...А немцы йшлі з сабакамі праз сад,
Сачылі ў садзе цёмны след расяны,—
Там па траве крывавая раса
Вяла за рэчку сцежку партызана.



4

*Яна не ўмерла! Божа мой, чаму*
*Яна не ўмерла?..*

Дзед быў пастух і бацька быў пастух,
І ён — пастух... Вось радаслоўны пасак.
На выгане хацінка, як катух,
Стулілася, бы восенню падпасак.
У хаце: Хомка, Гапка, Салівон,
Змітрок, Сымон, Надзейка і Алёна,
І самы меншы, самы чорны — ён,
Наследны прынц дынастыі Цыпрона.
За ім на свет з'явіўся быў Хвядос,
Але памёр. Тады Цыпрон да маткі
Звярнуўся з гэткім словам: «Ці не дос
Табе дзяцей пячы, то-ж не аладкі!»
Тых мудрых слоў глыбокі сэнс зрабіў
Вялікі ўплыў на плодную Улюту,
І новых пастухоў на радасць люду
З тае пары Цыпрон больш не хрысціў.
І пасвілі — адны на ўвесь раён —
Саковічы: Змітрок, Сымон, Надзейка,
Алёна, Хомка, Гапка, Салівон
Ды з бацькам у сваім сяле Андрэйка.
Была вайна. Нізрынулі цара.
Быў НЭП і хутары. Былі арцелі.
Але ўсё так-жа на заранку граў
Цыпрон на берасцянцы і з пасцелі
Андрэйку маці сцягвала: «Хутчэй!
Вунь пуга бацькава, вось з хлебам торба.
Барджэй, сыночак, сёрбай!» — І Андрэй
Шчарбатай лыжкай паслухмяна сёрбаў
І бег да выгану. Ён быў пастух
І пастуховыя выпешчваў мары:

«Вось звіць-бы пугу ўдлінкі на вярсту,—
Яна страляла-б, як пярун з-пад хмары!..»
Зімою ў школу бегаў. Дазаляў
Настаўніцы ляною, непакорай,
За што быў біты, — бацька дадаваў
Папружкай розуму. Было і горай:
Калі Кашлаты біў за агуркі
Дручком пад іхняй белаю альтанкай.
Так дні цягнуліся. Паўзлі дзянькі,
Як па іржышчы пуга-спавіванка.
Тым часам неўзаметку вырас ён,
Як ясень на прылессі вырастае,—
Высокі, чорны, выліты Цыпрон,
Цыпронаў сын, але душа не тая.
Душу ўлажыў напэўна комсамол
Ці мо' лясун, як пасвіў ён у лесе,—
Душу, якая рве усё наўкол,
Душу з літога срэбра і жалеза.
Ён вырас да тых дзён, калі калгас
Прыйшоў на вёску, рушачы устоі.
Тады сказаў Андрэй: «Прыйшоў наш час!»
І моцна ўсіх здзівіў гаворкай тою.
Задумаўся Цыпрон і ўсё сяло,
Задумаўся, зацік Кандрат Кашлаты.
А на сяле ўсё раптам загуло,
Затрэсла дробнай ліхаманкай хаты.
Міналі дні суроваю чаргой,
І неставала на забавы часу.
І стаў Андрэйка першым старшынёй
Найпершага ў ваколіцы калгасу.
Вясной Цыпрон Саковіч на раллю
У першы раз паехаў. Ён не верыў,
Што ён ізноў узяўся за зямлю,
Як дзед ягоны — земляроб Ксаверы



Ішоў за плугам ён; і баразна
За ім, як шнур, ішла па полі роўна,
Як шлях да шчасця, як сама вясна
Над многадумнай лысінай Цыпрона.
— Но, гнеды, тупай! Вось вам і пастух!
Но, гнеды! Зажывем цяпер багата!
Цяпер трэ' думаць, як-бы свой катух
Дыператрэсці на людскую хату...
Бег час, і рос калгас, на ўвесь раён
Вядомы, як «калгас імя Цыпрона»,
Бо ўсе ў ім—Хомка, Гапка, Салівон,
Змітрок, Сымон, Надзейка і Алёна,
Андрэй, старая Ўлюта і Цыпрон —
Ішлі адной брыгадай на палетак.
Лічыце самі, колькі працадзён
Яны маглі запрацаваць за лета!
Тады Андрэйка ажаніўся, зноў
Сяло здзівіўшы, як рабіў ён часта,—
Дзяўчынаю, што ён у хату ўвёў,
Была Кандратава дачушка Наста.
Каханне ў іх распачалося так.
Яму было трынаццаць. Насце — восем.
Быў за сялом закінуты вятрак.
Аднойчы пасвіў там Андрэйка ўвосень
Кандратавых авечак і кароў —
Сын пастуха, пастушы ўнук убогі —
І Насту стрэў. Яна скалола ў кроў
Іржышчам жорсткім босенькія ногі
І моцна плакала. Тады Андрэй
Аддаў ёй лапці, даў ёй з торбы хлеба
І, каб было Настульцы весялей,
Сказаў ёй: «Хочаш, я ўзляту да неба?»
Падбег да ветрака і на крыле,
Як той анёл, узняўся ў неба горда,

Але-ж, як чорт, зваліўся, бо струхлеў
Стары вятрак, і горай таго чорта
Устаў Андрэйка, чорны, як зямля,
Разбіты ў кроў, падзёрты і мурзаты...
Тады Настулька ледзьве давяла,
Рыдаючы, яго да іхняй хаты.
— То бог паслаў табе за агуркі!—
Сказаў Кандрат, а бацька (зноў з папружкай)
У хаце растлумачыў: «Ветракі —
Не для палётаў, ды і ты — не птушка»...
Даўно рассыпаўся і згніў вятрак,
І выраслі на ім шыпшыны-ружы...
Але застаўся ў сэрцы вечны знак
Дзіцячай непарушна-светлай дружбы.
За годам год мінуў і дзень за днём...
(Па дробязь нейкую, без дай-прычыны)
У раскулачаны спусцелы дом
Прыйшоў Андрэй да кінутай дзяўчыны.
Прыйшоў па справе, але што з душой
Ці з гэтым сэрцам зробіш ты? Нічога!..
Калі з ружовай даўнасці над ёй
Махнуў вятрак старым крылом былога!
Яна — настаўніцай. Ён — старшынёй.
І ўсе зайздросцілі: такая пара!
Дом новы будаваў ён над ракой,
Калгасны дом, у ліпавым гушчары.
Не дом, а лялька,— эх, і зажывем!
Не дом, а лялька,— працы дар нявесце,
Не дом, а, як гэта завуць?— Эдэм,
Наш земны рай, дзе шчасна ўсім жывецца!
— Эдэм, Эдэм!— смяялася яна,—
Адкуль бярэш ты гэтакія словы!..
І так смяялася... пакуль вайна
Не перарвала смех і шум будовы.



...Усю ноч не спаў Андрэй. Не спаў атрад.
Шумелі хлопцы: «Эх... шкада жанчыны!..»
І кожны Насту ратаваць быў рад,
Ды кожны знаў, што гэта немагчыма.
Уранні ўвесь атрад ён разаслаў —
У выведку, ў засады і ў дазоры,
А сам адзін застаўся, — ён жадаў
Пабыць сам-на-сам з невымоўным горам.
Гарачым тварам на вільготны мох
Ён кідаўся. Ён грыз той мох зубамі
І сам стагнаў, бо вытрымаць не мог
Пякельных мук, што быццам кіпцюрамі
Ірвалі сэрца, мозг пяклі агнём...
Як Насту ранілі, чаму ён дом
Адзін пакінуў? Ён-бы Насту нёс
Праз кулі і агонь-бы нёс, як свечку
Нясуць праз вецер... Ён яе на плёс
Прынёс-бы мёртвай ці жывой... Ён рэчку
З ёй пераплыў-бы... Ён-бы з ёй ішоў
Да лесу і шаптаў-бы: «Наста... Наста!..
Я панясу цябе да тых дубоў,
Дзе мы з табою бачыліся часта...
Ты плачаш, любая?! Твой кволы ўздых
Я перайму цяжкім сваім дыханнем...
Ты помніш, як ля ветрака ўдваіх
Мы плакалі з табой асеннім раннем?»
... Яе забілі. Там, каля дзвярэй,
Яна ляжала, а яму ў адчаі
Крычаў Дзяндзюра: «Гэй, бяжы, Андрэй!
Ты-ж камандзір! Цябе атрад чакае!..»
І ён згадаў, што ў пушчы, між дубоў,
Не спіць атрад, чакае камандзіра...
Савецкі край чакае, край дзядоў,
Край любай Насты, за які так шчыра

Яны кляліся ворагу імсціць...
«Яе забілі... Ёй ужо не жыць...
Я помсціць буду...— у гарачцы бою
Ён думаў, не ўладаючы сабою,—
Яшчэ, яшчэ не скончана вайна!..»
Ён аднаго баяўся: каб жывою
У рукі ім не трапіла яна...

Ён згадваў зноў і зноў мінулы бой
І раніцу пасля начнога бою...
Перамаўляліся паміж сабой
Над ім дубы гамонкаю глухою.
Адзін гудзеў: «Шкада, шкада яе!
Я знаў яе,— прыгожая кабета.
Я ёй даваў баравікі свае
Не помню толькі, у якое лета!..»
Другі з прылесся падаваў свой бас,
Бубнеў здалёк надтрэснута і глуха:
«О, б-божухна мой люб-бы! Што за час!
Не бачыў-бы нічога ды не слухаў!..»
А трэці гнеўна бухаў з-за бяроз:
«Я тут раней ад вас усіх узрос!
Вы ўсе мне вартыя хіба што ў дзеці.
Я перабачыў шмат чаго на свеце.
Народ тут баравы. Ён не такі,
Каб дараваць ды забываць ахвяры.
Яшчэ пабачыце, мае браткі,
Як грымне помста перунамі з хмары!..»
Мінуў, як вечнасць, дзень. Другі. Але
Разведка не дазналася нічога.
Эсэсаўскія часці, што ў сяле
Размешчаны, стаяць на варце строга.
І трэці дзень мінуў ужо, калі
Хлапцы з застаў на баравых дарогах



У зямлянку да Андрэя прывялі
Бяздомнага маўклівага старога.
Яго пазнаў Саковіч. Перад ім
Быў сельскі поп, стары айцец Макарый.
Ён знаў яго даўно, ды не такім
Маўклівым, а з усмешкаю на твары,
З усмешкай, за якую ў даўні час
«Папом вясёлым» бацю ахрысцілі.
— Адкуль, айцец?..
Макарый у адказ
Махнуў у бок сяла, што мглела ў сіні,
У бок ракі далёкай і бяроз...

а. Макарый

Адтуль... Я вам не вораг. Я прынёс
Табе, Андрэй, паклон Анастасіі.

Саковіч

Яна не ўмерла?!.

а. Макарый

Да яе ў турму
Мяне вадзілі,— так яна прасіла.

Саковіч

Яна не ўмерла, бедная!.. Чаму
Яна не ўмерла?!.

Партызан

Эх... каб наша сіла!

5

*Але няма расткоў яе, няма!*
*Няма, і ўжо ніколі іх не будзе...*

Даўно, даўно, у той далёкі час,
Калі бацькі яшчэ не мелі нас,
Бо нас 'шчэ не было тады на свеце,
Ды і бацькі былі бадай што дзеці,

Якраз, напэўна, ў гэты самы час
Прымушан быў архіерэйскай карай
Ў сяло з дзябёлай матушкай прымчаць
«Вясёлы поп» — святы айцец Макарый.
Старыя людзі кажуць, што сюдой
Прыехаў ён мажны, чырвонашчокі,
З маленькай кучаравай барадой,
Што ён хадзіў, узяўшы рукі ў бокі,
Што ён вяселлі адпраўляць любіў
І піць гарэлку пляшкамі і болей,—
За гэта ён і пакараны быў
Свайго начальніцтва святою воляй.
Ён быў не п'яніца, які ўзахлёб
Сівуху хлышча ды губляе розум,—
Ён проста быў вясёлы рускі поп,
Які хоць піў, ды болей быў цвярозым.
Асеўшы тут — такі ўжо мабыць лёс
(На ўсё бяруць у нас яго прычынай),—
Дажыў Макарый да сівых валос
І дацягнуў аж да вайны Айчыннай.
Нямала ён дзяцей тут ахрысціў,
А колькі павянчаў у сельскім храме,
А што адной гарэлкі перапіў —
Аб гэтым можаце судзіць вы самі!
З любым пагутарыць ён быў гатоў
Па-свойску, гэта значыць, па-сялянску.
— Які я поп!— казаў ён.— Мне-б кароў
Разводзіць сіментальскіх ці галандскіх!..
Ён быў музыкам. Шчэ з юнацкіх дней
Ім музыка ўладала з дзіўнай сілай,
І скрыпка гучная была часцей
У яго руцэ, чым чарка і кадзіла.
Як толькі ад царквы ці ад віна
Быў вольны поп, — скідаў свае ён транты,



І Грыгам альбо Брамсам да відна
Тады гучэла баціна веранда.
Аднойчы ён праходзіў ля карчмы
(Яе трымаў бадай усім знаёмы
Карчмар-яўрэй, многасямейны Шлёма)
І прыпыніўся. За дзвярыма смык
Гуляў па струнах, і якісь матыў,
Макарыю дагэтуль невядомы,
Так дзіўна ліўся, што Макарый быў
Як ланцугом прывязаны да дому
Яўрэя-Шлёмы. Не ўтрываўшы, ён
Адкутаў дзверы: «Добры дзень у хату!..»
І ў той-жа міг матыў свой зухаваты
Іграць пакінуў Шлёмаў сын Арон.
— Што гэта гралі вы?— спытаўся поп.—
Прабачце мне, мы не знаёмы з вамі...
— Што гралі?!—Шлёма ззіўна зморшчыў лоб.—
Лявоніху! Вы-ж, пэўна, чулі самі...
— Сыграй яшчэ!
Тут Шлёма ўзяўся сам
За скрыпку і паддаў такога жару
Сваёй рукою ўторам і басам,
Што поп Макарый аж змяніўся з твару:
— Які характар! Ах, які выраз!
Як самабытна, госпадзі-Ісусе!..
Так ад яўрэя поп у першы раз
Лявоніху — красуню Беларусі —
Пачуў і з той пары бадай штодня
У карчму хадзіў, пакуль не пераняў
Матыў яе, і так ім захапіўся,
Што не заўважыў сам, як дакаціўся
На гэты раз да страшнае бяды.
Вы знаеце — хаця-б з літаратуры,—
Што быў за час, што быў за лад тады,

Калі духоўнікам не па натуры
І не па сану іхняму было
Заходзіць у карчму ці да яўрэя
Альбо, тым болей, граць на ўсё сяло
Лявоніху. Ізноў да архірэя
Пайшоў данос...
Як гром, прыйшоў загад
Прыбыць папу у Мінск са справаздачай.
— То за лявоніху... Які, бо, гад
Данёс у Мінск? Напэўна, дзяк, не йначай...
Але-ж, як кажуць, як ты ні круці,
А прыйдзецца калісьці памярці...
І поп Макарый у жахлівай стоме
Праз тыдзень быў у архірэйскім доме.
Паслушнік далажыў, і ля дзвярэй
Яго сустрэў благачасцівым гневам
Апаплексічны тоўсты архірэй
І стаў сячы направа і налева:
— Ерэтык! Змій! Заблудшая аўца!
Злашкодны тэць, што ўпоўз да нас употай!
У манастыр да смертнага канца!
У Салаўкі — на чорныя работы!..
І так далей. Стаяў айцец Макар
Прад архірэем, спуджаны страшэнна:
«Якая-ж з гэтых памянёных кар
Мяне спасцігне?» — думаў ён смірэнна.
Тым часам прытаміўся архірэй.
У крэсла бухнуў. Выцягнуў хусцінку.
«Апраўдвайся, Макарый, ды хутчэй!..»
І выняў скрыпку поп і пад сурдзінку
Лявоніху шкадлівую заграў...
— Святы айцец, яна мяне згубіла,
Але-ж паслухайце,— якая сіла!..—
І пятае калена распачаў.



Спачатку меўся ўскочыць архірэй
І гневам зноў абрушыцца вялікім
На дзёрзкага папа. Але мякчэй
Зрабіўся раптам ён. Са светлым лікам
Прысеў ізноў. Рабіла дзіва скрыпка,—
Рука прэасвячэннага, як рыбка
У летняй рэчцы плавае ў цяпле,
У паветры плавала і па стале
Вясёлы такт прыкметна адбівала...
Праз поўгадзіны сакратар нямала
Быў здзіўлены, зірнуўшы з-за дзвярэй:
Наўкол папа-музыкі архірэй
Хадзіў кружка, як той шчупак на вудзе,
У бурным танцы...
Не! Жывыя людзі
Не могуць, што там лішняе казаць,
Лявонісе жывой супроцьстаяць!
— Ідзі, мой сын, і болей не грашы!—
Сказаў архіерэй на развітанне
І бласлявіў музыку ад душы,
Не налажыўшы жаднага спагнання.
З тых векапомных часаў без нягод
Жыў на сяле «вясёлы поп» Макарый,
Аж покуль сорак першы страшны год
Не грымнуў раптам, як пярун з-пад хмары...
Запомнім год, чарнейшы ад гадоў,
Калі мы безупынна адступалі!
Паў Беласток, паў Мінск і Магілёў,
І Рослаў, і Смаленск, і Вязьма палі...
Паўзлі франты усё далей на ўсход,
І менела радзім совецкіх карта.
Слабым душой здавалася ў той год,
Што і змагацца больш ужо не варта.
Калі з крыжамі танкі да Масквы

Ірваліся, жывое ўсё касілі,
Людзей збіраў Макарый да царквы
І там маліўся за яе—Расію...
Маліўся, бо нічога больш не ўмеў,
Бо ён не мог перарадзіцца занаў.
Укладваў у малітву той-жа гнеў,
Што ўкладвалі у зброю партызаны.
З грамадай вернікаў, як ён, старых,
Услых не называючы імёны,
Ён за яе маліўся і за іх —
За воінаў яе, байцоў чырвоных.
Хрысціў дзяцей з малітвай той і з ёй
Спраўляў вяселлі, а часцей хаўтуры...
Аж покуль і яго сваёй чаргой
Не клікнула вайна ў камендатуру.
Сказала: у Вялікдзень мусіць ён
З абавязковым выступіць казаннем
З амвону і «бандытам»— партызанам
Усенародны абвясціць праклён.
Ён выслухаў, пасля, зірнуўшы ў твар
Разгубленаму пану-афіцэру,
Сказаў: «Я не палітык, я—святар.
Не блытайце палітыку і веру»...
І стаў на гэты выратоўны троп,—
Што ён з мірскою справай не дружыўся,
І, як не дамагаліся, а поп
Застаўся на сваім і не згадзіўся.
Яго пакінулі, але яму
З тае пары служыць забаранілі
І не чапалі — покуль у турму
Да Насты ў смертны час не запрасілі.

Яна не ўмерла... Божа мой, чаму
Яна не ўмерла ноччу ў часе бою!



Пасля двух дзён дапросаў у турму
Салдаты п'яныя прыйшлі — за ёю.
Вось і канец... бывайце, ночы, дні,
Сутункі сінія, лясы і гоні!
Як гэта дзіўна ўсё-ж: яна ані
Ганебнай смерці не баіцца сёння!
Яе пакой глухі, яе турма —
Скляпенне школьнае. У ім, бывала,
З сваімі вучнямі яна сама
На лета парты школьныя складала.
Там бульбу сыпалі. Яна вясной
Расткі пускала — белыя, жывыя.
Яны ў зямлю прасіліся, — і ёй
Пара туды... Чаму-ж так сэрца ные?
Усё так дзіўна проста! Колькі год
Тлумачыла яна малым у школе,
Як кветка апладняецца, як плод
Дае каштоўны ў садзе ці на полі;
Як зерне прарастае, як расток
Ірвецца да святла, расце бясконца
І п'е зямлі сыры духмяны сок,
І жывіцца магутнай сілай сонца...
Вось так вучыла вучняў, і сама
Прымае смерць, адно — не так, як людзі...
Але няма расткоў яе, няма!..
Няма, і ўжо ніколі іх не будзе!
Схіляюцца... Штурхаюць... Што-ж, няхай!
Яна зламаная. Яна — без сілы.
Няхай нясуць праз смутак і адчай
Да іхняй шыбельні — яе магілы!
Яе не так штурхалі і не так
На допытах яе крышылі косці:
На кожнай кропцы цела — іхні знак
Нялюдскай ярасці і воўчай злосці.

Яна ў зямлю з сабой іх панясе —
Сляды і знакі, што паклалі каты,
І вырастуць расткамі пакрысе
Карэнні помсты з кветкамі адплаты.
Яна нічога не сказала ім
І не сказала-б, калі-б што і знала.
Адно хацела: каб Андрэй жывым
Застаўся і смяяўся, як бывала.

Смяяўся з іх, каб віўся чорны чуб
І чырванелі вусны як каралі,
Каб зноў ён сеў пад той зялёны дуб,
Пад той высокі, дзе грыбы збіралі...
Сутункі сінія ў вачах растуць,
Сутункі-цені, быццам-бы жывыя...
Няхай нясуць, няхай-жа валакуць,
Няхай пятлю зашморгваюць на шыі!
І зноў яна на плошчы, дзе штогод
Вясёлы Першамай страчала школа.
Ля шыбельні маўчыць, стаіць народ.
Салдаты з аўтаматамі наўкола.
А там, за імі, зелянее гай,
Блішчыць рака. Як жар, цвіце лагчына.
Здаецца — ўвесь глядзіць на Насту край
Зялёнымі, празрыстымі вачыма.
Глядзі-ж, мой край! Пільней глядзі сюды!
Глядзіце, пушчы, гарады і сёлы,
Як памірае ў лепшыя гады
Настаўніца сямігадовай школы!
Яна хацела крыкнуць: «Хай жывуць...»
Напружыла усе да рэшты сілы —
Не здолела... Упала на траву.
Яе паднялі... цягнуць да магілы.
На крэсла усцягнулі, каб зямлю



З удаўкі не намацала нагою...
. . . . . . . . . . .

Калі на шыю ўскінулі пятлю,
Яна даўно была ўжо нежывою...
Яна павісла прывідам страшным,
Калі з натоўпу вырваўся Юхім:
— Не рушце! Стойце, — то-ж мая сястра!
Вы мне крывёй заплоціце за гэта!..
Падбег да шыбельні і раптам стаў,
Як між вушэй дубінаю агрэты.
— Павесілі!.. Настулька! Як-жа так?..
Мне-ж абяцалі... Мне далі надзею...
А я ім верыў... верыў ім, дзівак!..
Павесілі сястру маю... Зладзеі!..
Ён, як вар'ят, сам гутарыў з сабой,
А потым, не спыняючы гаворку,
Счарнелы твар свой затуліў рукой
І цераз натаўп рушыў да пагорку.
Так брыў, намацваючы шлях нагой,
Нібы сляпы, усім людзям на дзіва,
І адбягалі дзеці ад яго,
І людзі саступалі шлях маўкліва.
Увечары ён блізка млыну быў.
Там ён угледзеў: з кайстрай за спіною
Паміж густых зялёна-жоўтых ніў
Айцец Макарый ціхаю ступою
Ішоў кудысьці, і зялёны лес
Яго хаваў ад старастава вока...
Вось ён мільгнуў між дрэў... мільгнуў і — счэз.
«Куды-ж гэта пайшоў ён так далёка?
Я з ім хацеў пагутарыць.— Аб чым?—
Ага! — пра Насту, пра жыццё, пра бога...
Нябожчык тата вельмі часта з ім

Аб гэтым гутарыў, калі была трывога
На сэрцы бацькавым. Цяпер-бы мне
Знайсці на ўсё, на ўсё адказ адзіны!..»
Пазней у млын зайшоў ён. На спіне
З каморы ўнізе вынес бак бензіны,
Наліў бутэлькі... Рэшту знёс назад.

6

*Прыгледзься толькі ўважліва,— ад іх*
*Шыбае пахам цвіласці і смерці...*

Праз тыдзень знаў ён, што ягоны сад
І дом, і млын аддалі Францу Блюму.
— З вышэйшых сфер такі прыйшоў загад...
Але вам рана аддавацца суму,—
Вы атрымаеце за ўсё спаўна
Грашыма і зямлёю з добрым домам
У іншым месцы,— ваша старана
Ўся супраць вас, то добра вам вядома...
Ну дык навошта вам рызыкаваць?
На іншым месцы гэтакім-жа чынам
Вы зможаце ізноў разбудаваць
Свой кут і там зрабіцца добрачынным
І паважаным на'т гаспадаром.
Там нанава жыццё у вас пачнецца.
Ваш дом? Якое глупства — бацькаў дом!
Наш дом ёсць там, дзе добра нам жывецца!
Сам камісар, таксама й Блюм, удвох
Юхіма уговорвалі, як быццам
На прапанову іхнюю ён мог
Згадзіцца альбо можа не згадзіцца.
Удаўшы лёгкі і кароткі сум,
Юхім сказаў, пакорны ўвачавідкі:
— Пан камісар і вы, паночак Блюм!



Вы берыцё усе мае набыткі,
Ды я ані не крыўджуся на вас,—
Я маю гора, мне ўжо не да млыну...
Мае паны, я згодны,— ў добры час!
Прашу-ж вас да мяне на вечарыну,—
Ёсць ладна выпіць, закусіць дасць бог:
Забіў свіпчо нядрэннае заўчора.
Па-свойску, па-тутэйшаму, як мог,
Падрыхтаваўся, — хоць каму не сорам...
... Дамоў прыйшоў ён, быццам-бы п'яны,—
Стаяў, хадзіў, сядзеў каля парога.
За рэчы браўся, падалі яны
З ягоных рук, нібыта у п'янога.
У стайні быў. З сярдзітым жарабцом
Штось гутарыў. Пагладжваў зад крыжасты.
Ізноў зайшоў у апусцелы дом,
Няголасна праз дзверы крыкнуў: «Наста!..»
І доўга слухаў... Але дом маўчаў.

Да вечарыны многа смачных страў
Насмажыла і напрагла суседка.
Нямала выпіўкі й не менш наедкаў
Было ўжо на стале. Там пасярод стаяў
Высокі, ёмкі «бусел» самагону,—
З прычыны браку «рускай» ён сягоння
Зноў, як бывала, свой пасад заняў.
Арыергардам перад «буслам» тым
Бутэлек з дзесяць «рэйнскага» стаяла
(Іх вымяняў у горадзе за сала
Да дня жанімства блізкага Юхім).
Тыл замыкаўся жоўтым парасём.
За ім ішлі ўжо рознастайнай масай
Наедкі: качка з смажаным гусём,
Драчоны і такая безліч мяса,

Што, каб пабачыў гэтае Кандрат —
Юхімаў бацька,— ён-бы не паверыў
Сваім вачам ды лічбе гэткіх страт
І сына-б вытурыў дручком за дзверы.
Але Юхім як быццам звар'яцеў:
— Цягні мне ўсё!— крычаў ён на Альбіну,—
Нясі з каморы яйкі і вяндліну!
Нясі!— мне трэба частаваць гасцей!..
Так ён крычаў, і дзіўна касмылі
На галаве яго тырчэлі дыба.
Альбіна думала: «Відаць, зямлі
Хапіла старасце, і ад сядзібы
Цяпер маршрут — у вір ці ў жоўты дом...»
Падрыхтаваўшы ўсё да вечарыны,
Яна на рэчку выйшла і крадком
Пераплыла на лодцы да руіны
На беразе пад ясенем старым.
Адтуль насустрач выйшаў невядомы.

Альбіна

Сягоння ўвечары ў ягоным доме
Гуляюць немцы. Толькі сам Юхім
Ці звар'яцеў, ці з гора проста так
З ім нешта дзеецца...

Невядомы

Напэўна, чуе
Благі канец, бо гэтываўкалак
Наўрад ці дома сёння заначуе...
Хадзем сюды!..
І між руін яны
Прапалі ў цемры, ў ніцых вербалозах.
Над рэчкаю, па цёмных плёсах
Усё ніжэй віліся туманы.
Ля млына ўнізе чорная вада
Аб нечым важным з галькай трайкатала,



І млын шаптаў: «Бяда, бяда, бяда!—
Загіне наш гаспадарок няўдалы»...
На неба цёмнае з усіх старон
Цягліся хмары і гасілі зоркі,
І толькі дом Юхімаў на пагорку
Свяціў у ноч з усіх сваіх акон,
Як гаспадар над парабкам-сялом...
Была ва ўсім развоі вечарына.
Грамадай шумнай цесна за сталом
Сядзелі госці: нейкая дзяўчына
Мясцовая, што немцам прадала
Цнату жанчыны й годнасць чалавека,
Два Блюмы: Франц і Готліб край стала
Пілі з гладышаў беларускіх «млека»,
Два ландвіртс-афіцэры, быццам жар,
Ад «першача» што чарка болей ззялі,
І ў цэнтры — павятовы камісар,
Што меў жалезны крыж і дзве медалі
За вернасць фюрэру.
Гасцям сваім
Што далей-болей падліваў у чаркі,
Частуючы гасцінна ўсіх, Юхім.
Піў сам, але «пярвач» найлепшай маркі
Ніяк не мог зрабіць яго п'яным.
Ён піў і піў, але, як і раней,
І не цвярозей быў і не п'яней...
Тады ён кінуў чарку і ў святліцу,
Дзе спала Наста некалі, пайшоў,
Там запаліў васковую грамніцу
Пад рызамі закураных багоў
І, балазе пад смех і шум банкету
Не чуць было яго малітву гэту,
Ускрыкнуў дзіка, ўзняўшы ўгору твар:
— За што-ж ты, божа, даў мне столькі кар?

Навошта нарабіў я столькі спраў —
І ўсё без наследку, і ўсё дарэмна?
Завошта немец дом мой адабраў,
Забіў сястру і службай пад'ярэмнай
Мяне паставіў проці ўсіх людзей,
Зрабіў мяне агідным, самым подлым?..
Сурова слухала бажніца модлы,
А шум банкету ліўся ўсё гучней,—
Хтось крэслам грукаў, хтось ускрыкваў: «Хайль!»
Хтось лаяўся па-руску досыць чыста,
І патаскуха неймаверны хай
Ўзняла, рыдаючы і смеючыся...
Тады Юхім ускочыў, як вар'ят,
І выбег з дому гэтага. На ганку
Яго пазнаў і выпусціў салдат,
І ён пабег праз сад свой, паўз альтанку
Са стромкай кручы... Вось ягоны млын.
Мукою зацярушаны цясіны...
Прыслухаўся,— нікога, ён — адзін...
Ізноў з каморы вынес бак бензіны,
Абліў ёй сцены, бэлькі, тонкі цёс,
Запалку чыркнуў, да сцяны паднёс.
...Калі вярнуўся ён, яго сустрэлі
Бязладным спевам,— немцы ап'янелі.
Ён на парозе стаў і паглядзеў
Апошні раз на бацькаўскую хату,
І ў твары немцаў, у бязладны спеў,
Шпурнуў на стол Юхім свой гнеў — гранату...

. . . . . . . . . . . . . . . . . .

Шэф-паліцай і камендант удвох
З пакоя выбеглі, пачуўшы стрэлы,
І ў той-жа міг іх нечакана стрэла
Каманда па-нямецку: «Гэндэ гох!..»



Затым абодвум ім па-беларуску
Па карках далі і, звязаўшы іх,
Да раніцы піхнулі абаіх
У іхнюю-ж уласную кутузку —
У Насцін прадсмяротны страшны кут...
І толькі там шэф-шыбельнік прызнаны
Занадта позна сцяміў: «Партызаны!..»
І камендант сказаў яму: «Капут!..»

. . . . . . . . . . . . . . .

Дом на гары і ўнізе чорны млын,
Як дзве паходні, уначы гарэлі...
У гэту ноч сяльчане як адзін
Узняліся. Праз дым пажару стрэлы
Грымелі адгалоскам над ракой —
Усё радзей — да самага світання.
Тады ўсё змоўкла... І густой расой
На дым пажарышчаў упала ранне.
І з новым сонцам новы дзень пачаў
Пісаць сваю эпічную паэму
Над драбязой брыдкіх, нікчэмных спраў,
Над попелам Юхімава эдэму...
Усё згарэла за нач — дом і млын,
Усё ўгару пайшло нячыстым дымам.
Але паміж асмалкаў і руін
Сяло не адшукала труп Юхіма.
Дарма Андрэй знайсці яго хацеў.
Юхіма не было. Згарэў, няйначай:
— Сабакам жыў. Сабакам звар'яцеў.
Адно хаця — сканаў не па-сабачы.
Схадзіў да Насты, — між садовых дрэў
Яна была на ўзгорку пахавана,
Паміж чарэшняў. Там цяпер вісеў,

Павешаны рукою партызана,
На грушы шэф паліцыі...
І зноў
У пушчу выступіў атрад. Сяльчане
Іх праваджалі. Клубы туманоў
Над рэчкаю, як коннікі з мячамі,
Плылі услед на белых жарабцах,
І новы дзень над дымнаю ракою
З расою на асвежаных лістах
Плыў да лясоў на чоўнах супакою.
Ваду ракі рабіў вятрыска дробна,
І ўсё наўкол — і дзень, і туманы—
Усё было так дзіўна непадобна
Да дню ахвяр, пажару і вайны.

### Эпілог

*— Маўчы,— ён нежывы!— Яго забілі?*
*—Не, дзетухна... Відаць па ўсім — ён сам.*

Ён не загінуў. Цераз колькі дзён,
Абдзёрты, дзікі, напалову голы,
У дальняй пушчы апынуўся ён.
Дарогай ён мінаў жытло і сёлы
І абыходзіў за вярсту людзей,
Бо іх баяўся. Быў той год багаты
На арахі, і імі кожны дзень
Жывіўся, быццам дзік, Юхім Кашлаты
І гэтым жыў. Як чорныя вятры
У пушчы дні і ночы праляталі.
Шаптала ноч яму імя сястры,
А дні імя Саковіча шапталі...
І ён зрываўся, і далей ішоў,—
Абы ісці, абы не быць на месцы.



Звінеў над ім зялёны шум лістоў.
Праз іхні шум ён ясна чуў, як дзесьці
Рыдала й плакала яго сястра.

Праз тыдзень ён узбіўся на зямлянку
У пушчы. Дахам ёй была кара,
І тапаром, без пілкі, без рубанку
Была ўся чыста зроблена яна.
Была ўжо ноч, калі ён так шчасліва
Знайшоў яе. Да вузкага вакна
Прыпаў ён тварам і застыў ад дзіва:
Прад ім стаяў царкоўны аналой,
Курэлася кадзіла сінім дымам.
Старэнькі поп, павернуты спіной
Да здзіўленага відам тым Юхіма,
Укленчыў, молячыся, — ён хрысціў
У самаробнай ліпавай купелі
Дзіцё. Непадалёк удвух сядзелі
Бабуля і малое год шасці.
Вось павярнуўся поп, і ўміг Юхім
Пазнаў: то быў «вясёлы поп» Макарый. .
Ён прыгадаў той страшны дзень, з якім
Знік поп старэнькі ў баравым гушчары.
Ён прыгадаў, як між зялёных ніў
У дзень павешання цяжкой ступою
Ішоў Макарый з кайстрай за спіною
І як Юхім за ім тады сачыў...
І ён падумаў: вось надзейны той
Прыязны друг, каго ён не баіцца,
З якім сваім адчаем і тугой,
І крыўдамі ён можа падзяліцца,
З каторым можа ён зрабіцца зноў
Былым Юхімам, спраўным чалавекам,
Каторы дасць прашчэнне ад грахоў

Хрыстовым імем ныне і навекі,
Бо і Хрыстос не праклінаў сваіх
Забойцаў, калі імі быў распяты.
Дык чым-жа горшы ад забойцаў тых
Нямецкі стараста Юхім Кашлаты?..
Вось кут, дзе ён нарэшце адпачне,
Дзе знойдзе добры схоў ад партызанаў!
Абы пражыць вайну, а па вайне,
Дасць бог, пачне сваё жыццё ён занаў...
Так думаў ён і да квадрату шкла
Цікоўна прынікаў зарослым тварам.
Хутчэй-бы гэтая кабета йшла
Дамоў ды стрэўся ён з айцом Макарам!
Але яна не йшла. Сваё радно
Ля печкі на падлозе разаслала,—
Відаць, бабулька тут заначавала...
Тады Юхім пастукаў у акно.
Той стук нясмелы ўчуўшы, без спалоху
Айцец Макарый выйшаў да парогу.
...Узняўшы срэбны бліскавічны крыж,
Стаяў прад старастам айцец Макарый,
І столькі велічы было на твары
Ягоным грозным, што Юхім, як мыш,
Нырнуў у цемру і паміж ялін
Пабег, як звер бяжыць ад чалавека,
І бегла ўслед: «Ад сёння і навекі...
Будзь пракляты на век-вякоў!.. Амін!..»
. . . . . . . . . . . . . . . . .

Уранні ціхім шляхам баравым
Ішла з ахрышчаным дзіцём бабуля,
З шасцігадовым, каля ног, малым.
І толькі яр сасновы абмінула,
Як закрычаў малы: між светлых дрэў,
Дзе лёталі па сініх кветках пчолы
І птушкі цвіркалі, як здань вісеў
Страшлівы труп, абдзёрты і поўголы.

Малы

Хто гэта, баба? Што ён робіць там?

Бабуля

Маўчы, — ён нежывы!..

Малы

Яго забілі?

Бабуля

Не, дзетухна, відаць па ўсім—ён сам...

Малы

А, ведаю,—то немцы з ім зрабілі!..

*1944 г.*

ЗМЕСТ

*Змітрок Астапенка.* А. Зарыцкі . . . . 3

I

На ўсход сонца . . . . . . . . 15
*** Агнямі і кроўю сардэчных паэм . . . 17
*** Сягоння так блізка, знаёма... . . . 19
Іду . . . . . . . . . . . 20
На палях . . . . . . . . . 21
Жніво . . . . . . . . . . 23
*** Гаварылі звонкія цапы... . . . . 25
Зварот партызанаў . . . . . . . 27
За мною далечы палёў . . . . . . 29
Уздымаюцца рыштаванні . . . . . 31
*** У размернасць строгую слоў... . . . 33
У вагоне . . . . . . . . . 34
Узорныя ліштвы на доме . . . . . 37
Развітанак . . . . . . . . . 39
Выбягала любая з хаты у праводзіны . . 41
*** Хай верш мой раскажа... . . . . 42
Лірычная зіма . . . . . . . . 43
Лес . . . . . . . . . . . 45
Па вяршынях шумных сосен . . . . 47
*** Пакідаю, пакідаю... . . . . . . 48
У порце . . . . . . . . . . 49
*** Хвалі сонныя, хвалі дрымотныя мне... 51
Вецер на моры . . . . . . . . 53
След херсанесіта . . . . . . . 55
Палундра . . . . . . . . . 58
*** Усё, што ў душы, як іскра захавана... 60
Ноч на станцыі Негарэлае . . . . . 61
1. Захацелася новых настрояў і слоў . . —



2. Ах, не ў гэтым-жа справа! . . . . 63
3. Як кудры белыя бяроз . . . . . 65
4. Цягнікі грымелі . . . . . . . 67
Абураныя . . . . . . . . . 68
1. Пасля арышту . . . . . . . —
2. Папялішчы . . . . . . . . . 71
3. «Аддайце нашых бацькоў і дзяцей» . 73
4. Над чорнымі хмарамі . . . . . 75
5. Абураныя . . . . . . . . . 77
Урыўкі з песні-паэмы «Два таварышы» . 79
Еўропа слухала мой верш . . . . . 88

II

На белым пагорку . . . . . . . 93
Русалка . . . . . . . . . . 95
Помста партызана . . . . . . . 97
Спаленая вёска . . . . . . . . 101
***Абяцаўся колькі раз . . . . . . 106
***Не кажы, не абяцай . . . . . 108
***Паклянёмся любіць наш край . . . 110

III

Ганна (аповесць у вершах) . . . . . 115
Эдэм (паэма) . . . . . . . . 144

Рэдактар *А. Куляшоў*
Афармленне *В. Варыёнчык*
Тэхнічны рэдактар *Я. Карпіновіч*
Карэктар *М. Пацеенка*

*

АТ 03602. Падп. да друку 11/XI 1957 г.
Тыраж 4000. экз. Фармат 70 × 92/32.
Фіз. друк. арк. 6. Ум. друк. арк. 7,02.
Уч.-выд. арк. 6,06. Зак. 543. Цана 4 руб.
Друкарня імя Сталіна, Мінск,
праспект імя Сталіна, 105.

На белорусском языке
*Дмитрий Емельянович Астапенко*
**Избранное**
Государственное издательство БССР
Минск 1957